ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

## N 11






## Усе на выбары у Вярхоўны Совет СССР





МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
1937

ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XI

№ 11
Лістапад 1937 г.

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 8.
Тэлефон рэдакцыі
па камутатару 20 000, даб. 50.



## АДКРЫТАЕ ПІСЬМО
## АКРУГОВЫМ ВЫБАРЧЫМ КАМІСІЯМ

*Мы, што ніжэй падпісаліся, кожны паасобку, атрымалі тэлеграмы ад розных заводаў, калгасаў і перадвыбарчых нарад выбаршчыкаў розных абласцей і акруг аб вылучэнні нас у якасці кандыдатаў у дэпутаты ў Вярхоўны Совет СССР па цэламу раду выбарчых акруг.*

*Мы прыносім сваю глыбокую падзяку за давер'е ўсім таварышам выбаршчыкам, выставіўшым нашы кандыдатуры.*

*Лічым, аднак, патрэбным заявіць, што паколькі па закону кожны з нас можа балатыравацца толькі ў адной з выбарчых акруг, то мы, як комуністы і члены ЦК ВКП(б), звярнуліся ў ЦК ВКП(б) за ўказаннямі. ЦК ВКП(б) даў нам ўказанне зняць свае кандыдатуры з іншых акруг і балатыравацца ў наступных выбарчых акругах:*

**Андрэеў А. А.**—у Совет Саюза, Ашхабадская выбарчая акруга, Туркменская ССР.

**Блюхер В. К.**—у Совет Саюза, Варашылаўская выбарчая акруга, Далёка-Ўсходні край.

**Булганін Н. А.**—у Совет Нацыянальнасцей, Маскоўская гарадская выбарчая акруга, гор. Масква.

**Будзённы С. М.**—у Совет Саюза, Шэпетоўская выбарчая акруга, Украінская ССР.

**Варашылаў К. Е.**—у Совет Саюза, Менская гарадская выбарчая акруга, Беларусь.

**Ежоў Н. І.**—у Совет Саюза, Горкаўская-Ленінская выбарчая акруга, гор. Горкі.

**Жданаў А. А.**—у Совет Саюза, Валадарская выбарчая акруга, гор. Ленінград.

**Кагановіч Л. М.**—у Совет Саюза, Ташкенцкая-Ленінская выбарчая акруга, Узбекская ССР.

**Калінін М. І.**—у Совет Нацыянальнасцей, Ленінградская гарадская выбарчая акруга, гор. Ленінград.

**Касіор С. В.**—у Совет Саюза, Ленінская выбарчая акруга, гор. Кіеў.

**Косарэў А. В.**—у Совет Саюза, Орджанікідзеўская выбарчая акруга, Украінская ССР.

**Крупская Н. К.**—у Совет Саюза, Серпухоўская выбарчая акруга, Маскоўская вобласць.

**Літвінаў М. М.**—у Совет Саюза, Петраградская выбарчая акруга, гор. Ленінград.

**Молатаў В. М.**—у Совет Саюза, Молатаўская выбарчая акруга, гор. Масква.

**Мікаян А. І.**—у Совет Нацыянальнасцей, Ерэванская-Сталінская выбарчая акруга, Армянская ССР.

**Мануільскі Д. З.**—у Совет Саюза, Акмолінская выбарчая акруга, Казахская ССР.

**Мехліс Л. З.**—у Совет Саюза, Кунцэўская выбарчая акруга, Маскоўская вобласць.

**Петроўскі Г. І.**—у Совет Нацыянальнасцей, Днепрапетроўская выбарчая акруга, Украінская ССР.

**Сталін І. В.**—у Совет Саюза, Сталінская выбарчая акруга, гор. Масква.

**Хрушчоў Н. С.**—у Совет Саюза, Краснапрэсненская выбарчая акруга, гор. Масква.

**Чубар В. Я.**—у Совет Саюза, Харкаўская сельская выбарчая акруга, Украінская ССР.

**Швернік Н. М.**—у Совет Нацыянальнасцей, Свердлоўская выбарчая акруга, Свердлоўская вобласць.

**Эйхе Р. І.**—у Совет Саюза, Новасібірская выбарчая акруга, гор. Новасібірск.

Само сабою зразумела, што мы прынялі да выканання гэтыя ўказанні ЦК ВКП(б).

Просім адпаведныя выбарчыя камісіі прыняць да ведама гэту нашу заяву і разглядаць яе як дакумент пры рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты.

**АНДРЭЕЎ А. А.**
**БЛЮХЕР В. К.**
**БУЛГАНІН Н. А.**
**БУДЗЁННЫ С. М.**
**ВАРАШЫЛАЎ К. Е.**
**ЕЖОЎ Н. І.**
**ЖДАНАЎ А. А.**
**КАГАНОВІЧ Л. М.**
**КАЛІНІН М. І.**
**КАСІОР С. В.**
**КОСАРЭЎ А. В.**
**КРУПСКАЯ Н. К.**
**ЛІТВІНАЎ М. М.**
**МОЛАТАЎ В. М.**
**МІКАЯН А. І.**
**МАНУІЛЬСКІ Д. З.**
**МЕХЛІС Л. З.**
**ПЕТРОЎСКІ Г. І.**
**СТАЛІН І. В.**
**ХРУШЧОЎ Н. С.**
**ЧУБАР В. Я.**
**ШВЕРНІК Н. М.**
**ЭЙХЕ Р. І.**

---

## Зварот Цэнтральнага Камітэта Ўсесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў)

*Да ўсіх выбаршчыкаў, рабочых, работніц, сялян і сялянак, да Чырзонай Арміі, да совецкай інтэлігенцыі.*

*ТАВАРЫШЫ!*

12 снежня 1937 года працоўныя Совецкага Саюза на аснове нашай социялістычнай Канстытуцыі будуць выбіраць дэпутатаў у Вярхоўны Совет Саюза ССР.

Партыя большэвікоў выступае на выбарах у **блоку,** у **саюзе** з беспартыйнымі рабочымі, сялянамі, служачымі, інтэлігенцыяй. Зарэгістраваныя ў выбарчых акругах кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Совета,—як комуністы, так і беспартыйныя,—вылучаны агульнымі сходамі рабочых і служачых па заводах, сходамі чырвонаармейцаў па вайсковых часцях, сходамі калгаснікаў і аднаасобнікаў па сёлах—на аснове выбарчага саюза комуністаў і беспартыйных. Гэтыя кандыдатуры аднадушна падтрыманы шматлікімі мітынгамі працоўных па выбарчых акругах і ўчастках.

Партыя большэвікоў не адгароджваецца ад беспартыйных, а, наадварот, ідзе на выбары ў блоку, у саюзе з беспартыйнымі, ідзе ў блоку з прафесіянальнымі саюзамі рабочых і служачых, з комсамолам і другімі арганізацыямі і таварыствамі беспартыйных.

Выходзіць, кандыдаты ў дэпутаты будуць агульныя як для комуністаў, так і для беспартыйных, кожны беспартыйны дэпутат будзе таксама дэпутатам ад комуністаў, роўна як кожны комуністычны дэпутат будзе дэпутатам ад беспартыйных.

Партыя большэвікоў заклікае ўсіх комуністаў і спачуваючых дружна, як адзін, галасаваць як за партыйных, так і за беспартыйных кандыдатаў.

Партыя большэвікоў разлічвае, што беспартыйныя выбаршчыкі будуць таксама дружна галасаваць за комуністаў-кандыдатаў, як за кандыдатаў беспартыйных.

Ці ёсць у выбаршчыкаў падстава галасаваць за кандыдатаў большэвіцкай партыі?

Ці заслугоўвае партыя большэвікоў таго давер'я народа, на якое яна разлічвае ў надыходзячых выбарах?

Чым была наша радзіма раней і чым яна стала за годы совецкай улады пры кіраўніцтве большэвіцкай партыі?

Чым была наша радзіма пры панаванні памешчыкаў і капіталістаў і чаго яна дасягнула пры ўладзе рабочых і сялян, пры кіраўніцтве большэвіцкай партыі?

За годы совецкай улады абліччa нашай краіны змянілася ў корані. З краіны адсталасці і сярэдневякоўя, цемры і бескультур'я, галечы, беспраўя і прыгнечання працоўных, якою была старая Расія, наша краіна ператварылася ў перадавую, культурную, магутную соцыялістычную дзяржаву.

Гэтых поспехаў дабіўся наш народ пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў.

Хто імкнецца да таго, каб наша радзіма была і надалей магутнай, культурнай і свабоднай соцыялістычнай дзяржавай, той будзе галасаваць за партыю большэвікоў, той будзе галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

У нашай краіне назаўсёды ліквідаваны капіталістычная сістэма гаспадаркі і эксплаататарскія класы, адменена прыватная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці і знішчана эксплаатацыя чалавека чалавекам. Як непахісная аснова нашага совецкага грамадства, замацавана соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці.

Гэтай сусветна-гістарычнай перамогі дабіўся наш народ пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў.

Хто імкнецца да таго, каб працоўныя Совецкага Саюза былі назаўсёды свабодны ад ярма эксплаатацыі, той будзе галасаваць за партыю большэвікоў, той будзе галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

Перамога соцыялізма ў СССР забяспечыла росквіт прамысловасці. За годы двух пяцігодак створана першакласная прамысловасць, аснашчоная сучаснай тэхнікай. Аб'ём вытворчасці нашых соцыялістычных фабрык і заводаў перавышае аб'ём вытворчасці прамысловасці даваеннага часу больш чым у восем разоў.

Гэтых поспехаў дабіўся наш народ пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі.

Хто імкнецца да таго, каб наша індустрыя развівалася і надалей, абганяючы капіталістычныя краіны, той будзе галасаваць за партыю большэвікоў, той будзе галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

У сельскай гаспадарцы нашай краіны на месца больш двух дзесяткаў мільёнаў дробных і найдрабнейшых аднаасобных сялянскіх гаспадарак з іх слабай тэхнікай і засіллем памешчыка і кулака выраслі і

ўмацаваліся свабодныя ад памешчыкаў і кулакоў буйныя соцыялістычныя гаспадаркі—звыш 243 тысяч калгасаў, багата забяспечаных трактарамі, камбайнамі і другімі сучаснымі сельскагаспадарчымі машынамі. Наша калгасная сельская гаспадарка разам з соўгасамі, калі мець на ўвазе ўсе яе галіны, вырабляе цяпер у два разы больш прадуктаў, чым сельская гаспадарка даваеннага часу.

Гэтай сусветна-гістарычнай перамогі дабіўся наш народ пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў.

Хто імкнецца да таго, каб нашы калгасы і соўгасы працвіталі і надалей, даючы нашай краіне багацце сельскагаспадарчых прадуктаў, той будзе галасаваць за партыю большэвікоў, той будзе галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

Перамога соцыялізма ў СССР забяспечыла карэннае паляпшэнне становішча працоўных. У царскай Расіі заўсёды была велізарная маса беспрацоўных, як ёсць яна ў кожнай капіталістычнай дзяржаве і зараз. Матэрыяльная незабяспечанасць, няўпэўненасць у заўтрашнім дні, галеча былі пастаянна лёсам рабочага класа. Пры ўладзе советаў station назаўсёды знішчана беспрацоўе. Перад совецкім грамадзянінам, які жадае працаваць, ніколі не ўстане пытанне аб няўпэўненасці ў заўтрашнім дні. За ўсімі грамадзянамі нашай краіны законам забяспечана права на працу, на адпачынак, на матэрыяльнае забеспячэнне ў старасці.

Гэтых поспехаў дабіўся наш народ пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі.

Хто імкнецца да таго, каб працоўныя нашай краіны былі і надалей пазбаўлены ад якога-б там ні было беспрацоўя і няўпэўненасці ў заўтрашнім дні, хто хоча далейшага палепшання матэрыяльна-бытавога становішча рабочых і служачых, той будзе галасаваць за партыю большэвікоў, той будзе галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

Кім быў селянін пры ўладзе памешчыкаў і капіталістаў? Ён быў самым абяздоленым, самым бяспраўным чалавекам.

У дарэволюцыйнай вёсцы было звыш 40 мільёнаў бядняцкага насельніцтва, людзей, лёсам якіх былі голад і жабрацтва. Совецкі лад, які ліквідаваў памешчыкаў, знішчыў кулацкую кабалу, перадаў сялянам звыш 150 мільёнаў гектараў памешчыцкіх і кулацкіх зямель і забяспечыў перамогу калгаснага ладу,—назаўсёды пазбавіў сялянства ад беднасці і жабрацтва і забяспечыў яму магчымасць заможнага і культурнага жыцця.

Гэтых дасягненняў дабіўся наш народ пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі.

Хто імкнецца да таго, каб наша сялянства было назаўсёды забяспечана ад небяспекі жабрацтва і голаду, хто жадае далейшага ўздыму заможнага жыцця вёскі, той будзе галасаваць за партыю боль-

шэвікоў, той будзе галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

Царская Расія была цёмная і невуцкая. Пераважная большасць насельніцтва была непісьменнаю. У совецкай-жа краіне ўжо ажыццёўлена ўсеагульнае абавязковае навучанне—у нашых школах вучыцца 30 мільёнаў рэбят. Права на асвету для ўсіх грамадзян заваёвана і запісана ў нашай Канстытуцыі. Граматнасць насельніцтва ў краіне перавышае 90 процантаў. Скора не будзе ў краіне ні аднаго непісьменнага грамадзяніна. Навука, літаратура, тэатр, мастацтва развіваюцца ў нашай краіне як ніколі. Заваяванні навукі і мастацтва з'яўляюцца здабыткам усіх грамадзян.

Гэтых поспехаў дабіўся наш народ пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў.

Хто імкнецца да далейшага росту асветы ў нашай краіне, хто хоча далейшага росквіту навукі, літаратуры і мастацтва народаў Совецкага Саюза, той будзе галасаваць за партыю большэвікоў, той будзе галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

Жанчына была рабой у царскай Расіі і застаецца рабой ва ўсіх капіталістычных краінах. Толькі ў СССР яна свабодная і поўнапраўная. Як у горадзе, так і ў вёсцы жанчына ідзе рука ў руку з мужчынам у будаўніцтве соцыялізма і кіраванні дзяржавай. Толькі ў нашай краіне створаны ўмовы для забяспечанага і шчаслівага мацярынства. Совецкія законы ахоўваюць правы мацеры і здароўе дзяцей.

Гэтых поспехаў дабіўся наш народ пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў.

Хто імкнецца да таго, каб наша совецкая жанчына была і надалей свабодная і поўнапраўная ва ўсіх галінах гаспадаркі і кіравання, той будзе галасаваць за партыю большэвікоў, той будзе галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

Царская Расія была турмой народаў, краінай нацыянальнага гнёту і разні, таксама як і ўсе капіталістычныя краіны з'яўляюцца краінамі нацыянальнага гнёту і каланіяльнага заняволення. Толькі ў Совецкім Саюзе раней прыгнечаныя народы дабіліся поўнага вызвалення ад нацыянальнага гнёту і няроўнапраўя. Цяпер у Совецкім Саюзе народы СССР аб'яднаны ў адзіную саюзную дзяржаву на пачатках роўнасці і добраахвотнасці. Совецкі Саюз з'яўляецца адзінай краінай у свеце, дзе канчаткова ліквідавана ўзаемнае недавер'е паміж народамі і дзе адносіны народаў будуюцца на пачатках узаемнага давер'я, брацкага саюза і прыязнага супрацоўніцтва.

Гэтай сусветна-гістарычнай перамогі дабілася наша радзіма пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў.

Хто імкнецца да таго, каб народы Совецкага Саюза былі і надалей свабоднымі і роўнапраўнымі, хто імкнецца да далейшага ўмацавання



дружбы народаў СССР, той будзе галасаваць за партыю большэвікоў, той будзе галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

Дасягненні нашай радзімы ў галіне будаўніцтва новага свабоднага жыцця сапраўды вялікія. Яны заваёваны народамі СССР у барацьбе з унутранымі і знешнімі ворагамі пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі. Прыяцелі народаў СССР рады гэтым дасягненням і вітаюць іх. Але ў Совецкага Саюза ёсць не толькі прыяцелі. У яго ёсць яшчэ ворагі. Гэта, па-першае, рэшткі ліквідаваных эксплаататарскіх класаў унутры краіны. Гэта, па-другое, рэакцыйна-фашысцкія сілы капіталістычных краін за межамі Совецкага Саюза. Калі ўнутраныя ворагі малакалькасны і бяссільны, то падтрымліваючыя іх знешнія ворагі прадстаўляюць сур'ёзную небяспеку для свабоды і незалежнасці нашай радзімы. Каб абезапасіць нашу радзіму ад гэтай небяспекі, трэба мець, па-першае, добра арганізаваныя карныя органы, здольныя абясшкодзіць шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў і іншых ворагаў совецкага народа; трэба мець, па-другое, добра арганізаваную і тэхнічна аснашчоную Чырвоную Армію, здольную абараніць совецкія граніцы ад нападаў звонку; трэба мець, нарэшце, добра прадуманую і паслядоўна правадзімую палітыку міру, здольную выкрываць захопніцкую палітыку ваяўнічых кругоў капіталістычных краін. На працягу раду год совецкая ўлада здолела дабіцца таго, што наша радзіма мае цяпер у сваім распараджэнні, як правераныя карныя органы і добра аснашчоную Чырвоную Армію, так і паслядоўна правадзімую палітыку міру ў галіне знешніх адносін. Толькі наяўнасцю гэтых дасягненняў тлумачыцца той факт, што совецкі народ вось ужо 16 год пазбаўлены ад ваенных сутычак, карыстаецца здабыткамі мірнага жыцця і мае магчымасць прадаўжаць сваю мірную працу.

Гэтыя поспехі ў галіне аховы свабоды і незалежнасці нашай радзімы заваёваны народамі СССР пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі.

Хто імкнецца да таго, каб працоўныя СССР карысталіся і надалей здабыткамі мірнай працы, хто хоча свабоды і незалежнасці нашай радзімы, той будзе галасаваць за партыю большэвікоў, той будзе галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

Такія дасягненні нашай радзімы за годы рэволюцыі, заваёваныя пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў.

Такія справы і вынікі барацьбы партыі большэвікоў, у якой слова ніколі не разыходзілася са справай і абяцанні якой ніколі не ператвараліся ў пусты гук.

Вось чаму партыя большэвікоў дазваляе сабе разлічваць на давер'е народа ў надыходзячых выбарах.

Вось чаму партыя большэвікоў мае права спадзявацца, што выбаршчыкі будуць адзінадушна галасаваць за кандыдатаў блоку комуністаў і беспартыйных.

*ТАВАРЫШЫ ВЫБАРШЧЫКІ!*

У ходзе выбарчай кампаніі выявілася імкненне некаторых комуністаў і беспартыйных галасаваць абавязкова і толькі за лідэраў, за кіраўнікоў партыі і ўрада, незалежна ад таго, у якой выбарчай акрузе яны зарэгістраваны. Гэтыя таварышы, відавочна, не разумеюць, што па закону кожны кандыдат можа балатыравацца толькі ў адной выбарчай акрузе. Гэтыя таварышы, відавочна, не разумеюць, што галасаванне за таго ці іншага кандыдата, падтрымліваемага партыяй большэвікоў і беспартыйнымі, ёсць галасаванне не толькі за данага кандыдата, але, перш за ўсё,—галасаванне за тую палітыку, якую праводзіць партыя большэвікоў сумесна з беспартыйнымі і якую абязуецца ажыццяўляць даны кандыдат. Задача заключаецца ў тым, каб кандыдаты былі стойкімі і адданымі справе народа людзьмі і каб выбаршчыкі дружна галасавалі за ўсіх кандыдатаў, калі нават некаторыя з іх не з'яўляюцца зараз з прычыны сваёй маладосці агульнапрызнанымі кіраўнікамі. Асаблівасць совецкага ладу ў тым іменна і заключаецца, што ён забяспечвае хуткі рост людзей, іх здольнасцей, іх талентаў, што ўчора яшчэ малавядомыя людзі могуць стаць у кароткі тэрмін агульнавядомымі дзеячамі, заслугоўваючымі ўсеагульную павагу.

Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў) заклікае ўсіх комуністаў і спачуваючых галасаваць за беспартыйных кандыдатаў з такой-жа аднадушнасцю, з якой яны павінны галасаваць за кандыдатаў-комуністаў.

Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў) заклікае ўсіх беспартыйных выбаршчыкаў галасаваць за кандыдатаў-комуністаў з такой-жа аднадушнасцю, з якою яны будуць галасаваць за беспартыйных кандыдатаў.

Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў) заклікае ўсіх выбаршчыкаў з'явіцца ўсім, як адзін, 12 снежня 1937 года да выбарчых урнаў для выбараў дэпутатаў у Совет Саюза і ў Совет Нацыянальнасцей.

Не павінна быць ні аднаго выбаршчыка, які не выкарыстае свайго ганаровага права выбраць дэпутатаў у Вярхоўны орган Совецкай дзяржавы.

Не павінна быць ні аднаго актыўнага грамадзяніна, які-б не лічыў сваім грамадзянскім абавязкам садзейнічаць удзелу ўсіх без выключэння выбаршчыкаў у выбарах у Вярхоўны Совет.

Дзень 12 снежня 1937 года павінен стаць днём вялікага свята яднання працоўных усіх народаў СССР вакол пераможнага сцяга Леніна—Сталіна.

*УСЕ НА ВЫБАРЫ!*

*НЯХАЙ ЖЫВЕ І МАЦНЕЕ НАША МАГУТНАЯ РАДЗІМА—САЮЗ СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК!*

*НЯХАЙ ЖЫВЕ НАША СОВЕЦКАЯ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ!*

*НЯХАЙ ЖЫВЕ САЮЗ РАБОЧЫХ І СЯЛЯН!*

*НЯХАЙ ЖЫВЕ САЮЗ КОМУНІСТАЎ І БЕСПАРТЫЙНЫХ У НАДЫХОДЗЯЧЫХ ВЫБАРАХ ВЯРХОЎНАГА ОРГАНА СОВЕЦКАЙ ДЗЯРЖАВЫ!*

*НЯХАЙ ЖЫВЕ СОВЕЦКАЯ ЎЛАДА!*

*НЯХАЙ ЖЫВЕ ЎСЕСАЮЗНАЯ КОМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ (БОЛЬШЭВІКОЎ)!*

*Цэнтральны Камітэт*
*Усесаюзнай Комуністычнай*
*Партыі (большэвікоў)*

6 снежня 1937 года.

# ЦК ВКП(б)—таварышу СТАЛІНУ

*Родны наш Іосіф Вісарыёнавіч!*

*Мы, усе працоўныя сталіцы ордэнаноснай Савецкай Беларусі, чырвонаармейцы, камандзіры і палітработнікі Менскага гарнізона, сабраўшыся на мітынг, прысвечаны гадавіне Сталінскай Канстытуцыі і выбарам у Вярхоўны Совет СССР, шлем Вам, творцу Канстытуцыі перамогшага соцыялізма, нашаму мудраму правадыру і настаўніку, бацьку і другу працоўных усяго свету, нашае палкае прывітанне.*

*У гэтыя радасныя дні, рыхтуючыся да найвялікшай сусветна-гістарычнай падзеі ў жыцці ўсіх краін і народаў—да выбараў у Вярхоўны Совет СССР на аснове Сталінскай Канстытуцыі, кожны з нас першыя словы бязмежнай любві, беззаветнай адданасці, усе нашы мыслі і пачуцці глыбокай удзячнасці накіроўвае да Вас, хто ўсё сваё жыццё, увесь свой геній, усю сваю мудрасць аддаваў і аддае для шчасця народаў—да Вас, дарагі таварыш Сталін.*

*З думкаю аб Вас, таварыш Сталін, аб нашай слаўнай большэвіцкай партыі, аб нашай шчаслівай соцыялістычнай радзіме, мы разам з усім совецкім народам пойдзем 12 снежня да выбарчых урнаў, каб яшчэ раз прадэманстраваць перад усім светам непахісную адданасць справе соцыялізма, сваю згуртаванасць вакол нашай роднай партыі Леніна—Сталіна, вакол нашага любімага правадыра і настаўніка таварыша Сталіна.*

*Сэрцы нашы поўны законнай гордасці і найглыбейшай падзякі Цэнтральнаму Камітэту нашай ленінска-сталінскай партыі і асабіста Вам, таварыш Сталін, за аказаны нам вялікі гонар галасаваць за таго, імя якога з любоўю і надзеяй вымаўляецца працоўнымі ўсяго свету, за жалезнага наркома абароны, за першага маршала СССР—за таварыша Варашылава Клімента Ефрэмавіча.*

*12 снежня прыдзем усе, як адзін, да выбарчых урнаў, каб галасаваць за роднага Клімента Ефрэмавіча, тым самым галасаваць за далейшае ўмацаванне магутнасці нашай радзімы, за нашае шчаслівае, радаснае жыццё, за нашу слаўную большэвіцкую партыю, за Вас, дарагі Іосіф Вісарыёнавіч, любімага і блізкага нам настаўніка і друга.*

*Мы пойдзем да выбараў, згуртаваныя жалезнай сцяной вакол партыі Леніна—Сталіна, удзесяцярыўшы сваю рэволюцыйную пільнасць, цвёрда памятаючы Вашы мудрыя ўказанні аб капіталістычным акру-*

*жэнні, усведамляючы асаблівую адказнасць, якую ўскладае партыя і ўвесь савецкі народ на нас, знаходзячыхся на рубяжы з фашысцкімі дзяржавамі, глыбока ўсведамляючы, што нашае аднадушнае галасаванне за лепшых людзей краіны Советаў, за адданых сыноў большэвіцкай партыі будзе сакрушальным ударам па ўсіх ворагах народа, па крывавых наймітах фашызма, якія прабавалі адняць у нас шчаслівае, радаснае жыццё і прадаць нашу радзіму ў кабалу памешчыкам і капіталістам.*

*Пад Вашым мудрым кіраўніцтвам, таварыш Сталін, мы расправіліся і надалей будзем бязлітасна выкрываць, граміць, выкарчоўваць і знішчаць подлых трацкісцка-бухарынскіх, нацыянал-фашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў. Ідучы да выбараў у Вярхоўны Совет СССР, мы клянемся Вам, дарагі таварыш Сталін, зрабіць усё, каб апраўдаць аказаны нам высокі гонар і найвялікшае давер'е сваёй нястомнай большэвіцкай работай на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, яшчэ большым умацаваннем Совецкай Беларусі—баявога фарпоста Совецкага Саюза на заходніх граніцах. Мы клянемся Вам, што па першаму закліку партыі большэвікоў, па першаму Вашаму закліку мы з радасцю аддадзім усе нашы сілы, а калі патрэбна будзе— і жыццё, за трыумф комунізма ва ўсім свеце.*

*Няхай жыве верны, баявы сын партыі Леніна—Сталіна, саратнік вялікага Сталіна—Клімент Ефрэмавіч Варашылаў!*

*Няхай жыве наша свабодная, магутная соцыялістычная радзіма—СССР!*

*Няхай жыве вялікая партыя Леніна—Сталіна!*

*Няхай жыве натхніцель і арганізатар перамог соцыялізма наш родны вялікі таварыш Сталін!*

---

## Жалезнаму наркому абароны Кліменту Ефрэмавічу Варашылаву

Родны наш Клімент Ефрэмавіч!

Сабраўшыся на агульнагарадскі мітынг, прысвечаны выбарам у Вярхоўны Совет СССР, мы, працоўныя горада Менска, шлем Вам, свайму любімаму кандыдату ў Вярхоўны Совет СССР, слаўнаму палкаводцу нашай роднай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі—сваё палкае большэвіцкае прывітанне.

Вось ужо месяц, як мы, працоўныя сталіцы ордэнаноснай БССР, перажываем бязмежную радасць, даведаўшыся, што на нашу долю выпала найвялікшае шчасце аддаць свае галасы, сваё давер'е Вам, вернаму саратніку і другу Леніна і Сталіна, неўстрашымаму змагару за справу комунізма, любімаму сыну совецкага народа.

12 снежня, калі мы пойдзем да выбарчых урнаў, каб выканаць свой высокі грамадзянскі абавязак, кожны з нас панясе ў сэрцы сваім імя нашага вялікага правадыра, бацькі і настаўніка роднага таварыша Сталіна і з велізарнай радасцю аддасць свой голас Вам, дарагі Клімент Ефрэмавіч,—бліжэйшаму саратніку таварыша Сталіна.

Галасуючы за Вас, таварыш Варашылаў, мы галасуем за нашу родную вялікую партыю Леніна—Сталіна, якая прывяла нас да ўсясветнагістарычных перамог соцыялізма і вядзе нас да далейшых перамог комунізма.

Галасуючы за Вас, таварыш Варашылаў, мы галасуем за шчаслівае, свабоднае, радаснае, заможнае жыццё народаў нашай вялікай радзімы, мы галасуем за яшчэ больш радаснае будучае краіны Советаў. Галасуючы за Вас, таварыш Варашылаў, мы галасуем за далейшае ўмацаванне абароннай магутнасці соцыялістычнай дзяржавы, мы галасуем за ўмацаванне магутнасці вернага вартавога заваяванняў Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, за нашу родную непераможную Чырвоную Армію—гордасць і надзею пролетарыяў і працоўных усяго свету.

Галасуючы за Вас, таварыш Варашылаў, мы галасуем за вялікага правадыра комунізма, таварыша Сталіна, са слаўным жыццём якога непарыўна звязана і Ваша слаўнае жыццё і нястомная барацьба за

*справу комунізма. Вы, як верны сын партыі Леніна—Сталіна пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна вялі рашучую барацьбу з ворагамі партыі і народа, бязлітасна грамілі прэзрэнных наймітаў фашызма—трацкісцка-бухарынскую банду.*

*12 снежня мы ўсе, як адзін чалавек, апускаючы ў урны свае выбарчыя бюлетэні з Вашым імем, будзем дэманстраваць яшчэ раз перад усім светам сваю любоў і адданасць справе партыі Леніна—Сталіна, геніяльнаму творцу і арганізатару соцыялістычных перамог Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну.*

*12 снежня сваім аднадушным галасаваннем за лепшых сыноў комуністычнай партыі мы, разам з усім совецкім народам, яшчэ раз прадэманструем сваю гатоўнасць змагацца за комунізм пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, сваю гатоўнасць і надалей бязлітасна граміць і выкарчоўваць без рэшты ўсіх ворагаў народа.*

*Мы выражаем Вам, дарагі Клімент Ефрэмавіч, найглыбейшую падзяку за аказаны нам высокі гонар і давер'е і абяцаем Вам не шкадаваць сваіх сіл, каб апраўдаць Вашае давер'е сваёй большэвіцкай работай і барацьбой за новыя перамогі комунізма.*

*Мы абяцаем Вам нястомна мацаваць БССР—баявы фарпост Совецкага Саюза па заходніх граніцах, акружыць яшчэ большай любоўю, клопатамі і ўвагаю нашу родную Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію, цвёрда памятаючы і няўхільна ажыццяўляючы Вашае ўказанне аб тым, што «наша армія існуе не для нападу, але толькі да моманту нападу ворагаў на нашу радзіму. Яна будзе самай нападаючай з усіх калі-небудзь нападаўшых армій, калі вораг прымусіць яе да гэтага».*

*Мы запэўніваем Вас, родны Клімент Ефрэмавіч, што калі вораг папрабуе парушыць свяшчэнныя граніцы совецкай зямлі, мы ўсе, як адзін, станем у рады нашай слаўнай Чырвонай Арміі і пад мудрым кіраўніцтвам вялікага Сталіна, пад Вашым баявым вадзіцельствам мы да канца выканаем Вашы ўказанні,—сатром у парашок любога ворага, будзем біць яго на той тэрыторыі, адкуль ён з'явіцца, і ўзнімем чырвоны сцяг комунізма ва ўсім свеце.*

*Няхай жыве творац Канстытуцыі перамогшага соцыялізма—наш родны таварыш Сталін!*

*Няхай жыве верны саратнік вялікага Сталіна наш любімы кандыдат у Вярхоўны Совет СССР жалезны нарком абароны таварыш Варашылаў!*

# Прамова тав. К. Е. Варашылава

## на парадзе ў дзень XX гадавіны Вялікай Кастрычніцкай Социялістычнай Рэволюцыі

Таварышы байцы, камандзіры і палітработнікі, рабочыя і работніцы, калгаснікі і калгасніцы, работнікі навукі, тэхнікі і мастацтва! Таварышы стаханаўцы і стаханаўкі, комсамольцы і піонеры! Таварышы зарубежныя браты па класу, прыгнечаныя народы ўсяго свету!

Ад імя і па даручэнню Цэнтральнага Камітэта Ўсесаюзнай Комуністычнай Партыі большэвікоў і Ўрада Совецкага Саюза вітаю ўсіх вас і віншую з дваццатай гадавінай Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэволюцыі.

Таварышы! Дваццаць год таму назад рабочы клас, разам з беднейшым сялянствам, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, зверг уладу памешчыкаў і капіталістаў. Упершыню ў гісторыі чалавецтва працоўныя сталі гаспадарамі совецкай зямлі. Перамогшы рабочы клас пад геніяльным кіраўніцтвам Леніна арганізаваў сваю совецкую дзяржаву. Упершыню дыктатуры капіталістаў і памешчыкаў была процістаўлена дыктатура працоўных людзей, дыктатура пролетарыята.

У гераічных бітвах, нягодах і бядотах будавалася і мацнела дзяржава рабочых і сялян. Больш трох год рабочы клас і бяднейшае сялянства, арганізаваныя і кіруемыя партыяй Леніна—Сталіна, вялі лютую ўзброеную барацьбу супроць памешчыкаў, капіталістаў, замежных інтэрвентаў і белых генеральскіх полчышчаў.

На-смерць перапалоханая пролетарскай рэволюцыяй сусветная буржуазія арганізавала ўсе контррэволюцыйныя сілы Расіі, да зубоў узброіла іх і кінула на задушэнне Совецкай Рэспублікі.

Гераічны народ, абуджаны Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэволюцыяй, сцякаў кроўю ў барацьбе за права жыць і будаваць сваё соцыялістычнае жыццё.

Найвялікшая мужнасць рабочага класа Расіі, беззаветнае падтрыманне яго бядняцкімі масамі сялянства, надзвычайная сіла Комуністычнай партыі—арганізатара і перадавога барацьбіта, брацкае падтрыманне міжнароднага пролетарыята і непасрэднае кіраўніцтва барацьбой геніяльных правадыроў рабочага класа і бяднейшых мас сялянства—Леніна і Сталіна забяспечылі поўны разгром усіх ворагаў

соцыялізма. Крыважэрныя шакалы і сцярвятнікі замежнага капітала, усе найміты і рэшткі памешчыцкіх і капіталістычных класаў Расіі былі разбіты і выкінуты за межы совецкай зямлі.

Таварышы! Мы пачынаем ужо забываць аб тым, што прадстаўляла сабою наша совецкая краіна непасрэдна пасля сканчэння грамадзянскай вайны. А наша шматмільённая моладзь толькі з кніг чэрпае весткі аб гэтых выдатных, але далёка не вясёлых годах. Спаленыя і разваленыя, без апалу, вады і святла гарады і сёлы, разбураныя чыгуначныя магістралі і збудаванні, горы хламу з вагонаў і паравозаў замест дзеючага транспарту, закінутыя і затопленыя руднікі і шахты, бяздзеючыя і разбураючыяся і без таго змарнелыя фабрыкі і заводы, апусцелыя і пароcлыя чортапалохам палі і нівы—вось малюнак таго, што дасталося Совецкай уладзе ў спадчыну.

З хаосу і развалін на зямлі, насычанай кроўю лепшых сыноў народу, працоўныя нашай краіны, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, пад вадзіцельствам геніяльнага Леніна і вялікага Сталіна пабудавалі сваю Рабоча-Сялянскую Дзяржаву.

Таварышы!

Пераможная Кастрычніцкая Соцыялістычная Рэволюцыя пакончыла з прадгісторыяй чалавецтва. Дваццаць год жыцця совецкага народу—гэта пераможнае соцыялістычнае шэствіе аднаго з яго атрадаў, які вызваліўся ад капіталістычнага рабства. Чалавецтва ўступіла ў сваю новую, сапраўдную гісторыю.

Совецкі народ пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна за дваццаць год дабіўся ва ўсіх галінах будаўніцтва соцыялізма такіх поспехаў, аб якіх раней лепшыя і самыя смелыя розумы не маглі нават марыць.

Соцыялістычная прамысловасць усіх найменаванняў і спецыяльнасцей пературылася к гэтаму часу ў магутную, перадавую, безупынна растучую індустрыю перамогшага соцыялізма.

Раздробленая, жабрацкая, заўсёды змарнелая ў мінулым сельская гаспадарка перутворана ў нас у самае магутнае, самае арганізаванае, багата снабжонае машыннай тэхнікай, соцыялістычнае земляробства.

Рабочы клас, калгаснае сялянства і совецкая інтэлігенцыя, кіруемыя партыяй Леніна—Сталіна, прадстаўляюць сабою магутны, дзейсны калектыў будаўнікоў соцыялізма.

Выдатны стаханаўскі рух з'яўляецца вынікам велізарнага палітычнага і маральнага росту працоўных нашай краіны і рабочага класа ў першую галаву. Недалёк той час, калі стаханаўскія метады працы поўнасцю ахопяць усе галіны нашай соцыялістычнай гаспадаркі і стануць пануючымі.

Вялікія дасягненні соцыялізма—вынік велізарнай творчай працы мільённых мас, кіруемых партыяй і вялікім Сталіным. У напружаным

будаўніцтве соцыялізма перарабляецца, крышталізуецца совецкі чалавек.

Краіна Советаў мае такіх людзей, якіх можа мець толькі краіна соцыялізма. У лёдавай станцыі Папаніна, у пералётах Чкалава і Громава з Масквы праз Паўночны полюс у Амерыку, як у фокусе, адлюстроўваецца ўся веліч новага совецкага чалавека, народжанага і ўзгадаванага Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэволюцыяй, выхаванага і ўзнятага на нябачаную вышыню партыяй Леніна—Сталіна.

Сталінская Канстытуцыя—гэты найвялікшы падарунак чалавецтву—вянчае дваццацігадовы перыяд барацьбы, поспехаў, дасягненняў і славы соцыялізма ў СССР.

Таварышы, цяпер ужо ўсякаму ясна, што калі-б наша партыя, рабочы клас і працоўныя не мелі шматлікіх ворагаў, калі-б нашы знешнія класавыя ворагі не мелі разгалінаванай шпіёнска-дыверсійнай сеткі ў нашай краіне, поспехі Совецкага Саюза былі-б нязмерна большымі.

Капіталістычныя і фашысцкія бандыты звонку выкарыстаці здраднікаў і рэнегатаў соцыялізма ў нашай краіне. Трацкісты, зіноўеўцы, бухарынцы, рыкаўцы і іншая чалавечая гніль за трыццаць сярэбранікаў прабавалі прадаць працоўных нашай Радзімы, справу соцыялізма.



Бязлітаснай расправай дзяржава рабочых і сялян адказала і надалей будзе адказваць усім ворагам, усім прыспешнікам гніючага фашыствуючага капіталізма і яго наймітам.

Наша соцыялістычная Радзіма акружана з усіх бакоў капіталістычнымі краінамі. Сярод гэтых краін ёсць і такія, дзяржаўныя дзеячы якіх часта і дэманстрацыйна выступаюць са знявагамі і прамымі пагрозамі па адрасу працоўных нашай краіны і Совецкага Ўрада. Дарэмная праца! Рабочыя і сяляне Совецкага Саюза і без таго даскана́ла разумеюць, што да таго часу, пакуль поплеч існуюць дзве сістэмы—сістэма капіталізма і сістэма соцыялізма—**яны павінны быць заўсёды напагатове.** Наш народ гэту ісціну добра ўсвоіў і цяпер ён глядзіць яшчэ больш зорка, яшчэ больш пільна назірае гарызонт на Ўсходзе і на Захадзе.

Абісінія, а за ёю шматпакутная Іспанія, якая гераічна на працягу многіх месяцаў адбівае фашысцкіх інтэрвентаў і ўнутраных контррэволюцыянераў, шматмільённы народ Кітая, які багата палівае кроўю сваю родную зямлю, абараняючы яе ад гвалтаўнікоў і захватчыкаў,—хіба гэта не прадметныя ўрокі ўсім тым, хто яшчэ ў сляпаце сваёй не разумее, што капіталізм і яго параджэнне фашызм—гэта вайна і пагібель мільёнаў працаўнікоў, вайна і знішчэнне культурных каштоўнасцей, вайна і дзікі разгул шалёных гвалтаўнікоў на заваёванай зямлі.



Рабоча-Сялянская ўлада ў сваім дваццацігадовым актыве мае і такое дасягненне, як яе Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія. Узброеныя сілы нашай краіны—верны аплот совецкай улады, пастаянны і пільны вартавы социялістычнай дзяржавы.

Кожны баец, камандзір, палітычны работнік, інжынер, урач і тэхнік даскакала ведаюць, што яны пастаўлены гісторыяй на адказныя пасты абароны інтарэсаў працоўных, абароны сваёй социялістычнай дзяржавы.

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія, як і ўвесь Совецкі Саюз, гатова жыць заўсёды ў міры з усім светам. Але Чырвоная Армія таксама гатова кожны міг у парашок сцерці ворага, які адважыцца напасці на краіну працоўных.

Наша армія існуе не для нападу, але толькі да моманту нападу ворага на нашу Радзіму. Яна будзе самай нападаючай з усіх калі-не будзь нападаўшых армій, калі вораг яе прымусіць да гэтага.

Няхай жыве мір ва ўсім свеце!

Таварышы! У гэты ўрачысты дзень у нашай гісторыі мы ўдзячна схіляем свае чырвоныя баявыя сцягі перад памяццю вялікіх барацьбітоў за чалавечае шчасце.

Вобраз геніяльнага Леніна і ўсіх яго слаўных саратнікаў, аддаўшых жыццё за справу народу, памяць аб сотнях тысяч і мільёнах барацьбітоў, склаўшых свае галовы за социялізм і шчасце чалавецтва, жывуць у нашых сэрцах і вечна будуць жыць у сэрцах усіх працоўных і сумленных людзей нашай планеты.

Няхай жыве наша вялікае свята—дваццацігоддзе Кастрычніцкай Социялістычнай Рэволюцыі!

Няхай жывуць народы Совецкага Саюза!

Няхай жывуць пролетарыі і прыгнечаныя ўсяго свету!

Няхай жывуць сумленныя барацьбіты за сваю незалежнасць—народы Іспаніі і Кітая!

Няхай жыве наша слаўная і непераможная Чырвоная Армія!

Няхай жыве наша магутная Комуністычная партыя!

Няхай жыве наш вялікі Сталін!

---

## Прамова Клімента Ефрэмавіча Варашылава

*на 120-тысячным мітынгу выбаршчыкаў Менскай гарадской выбарчай акругі*

Таварышы, вам—рабочым і работніцам, калгаснікам і калгасніцам, чырвоным байцам, камандзірам і палітработнікам, прадстаўнікам працоўнай інтэлігенцыі, вам—партыйным і непартыйным большэвікам Менскай выбарчай акругі—прыношу маю глыбокую чырвонаармейскую, большэвіцкую падзяку за высокі гонар, якім вы ўдастоілі мяне, вылучыўшы сваім кандыдатам у Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Таварышы, усе добрыя словы, якія былі тут сказаны па майму адрасу, я цалкам і поўнасцю аднošу да нашай вялікай партыі Леніна—Сталіна. Я з'яўляюся сынам нашай партыі, і калі я маю якія-небудзь заслугі перад народам, то гэтым я абавязан нашай партыі, нашаму правадыру таварышу Сталіну. **(Апладысменты. Крыкі «ура»).**

Праз пяць дзён увесь совецкі народ пойдзе да выбарчых урнаў, каб выразіць сваю волю, каб выбраць на аснове Сталінскай Канстытуцыі Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Няма ў свеце другой такой краіны, дзе-б народ меў такую канстытуцыю, як наша Сталінская Канстытуцыя, дзе-б народ быў таксама роўнаправны і поўнамоцны, як роўнаправны і поўнамоцны наш совецкі народ.

Ёсць шмат буржуазных дзяржаў, імянуючых сябе дэмакратычнымі. Цану гэтым дэмакратыям мы ўсе вельмі добра ведаем. Гэта—ілжэдэмакратыі. Там, дзе рабочыя і сяляне, дзе ўсе працоўныя, у тым ліку інтэлігенцыя, працуюць у інтарэсах невялікай кучкі капіталістаў, там, дзе кіпіць лютая класавая барацьба і мільёны беспрацоўных пралетарыяў марнеюць, там, дзе буржуазія дыктуе свае законы і волю,—там няма і не можа быць сапраўднай дэмакратыі, там няма і не можа быць роўнапраўя грамадзян.

Толькі ў нашай краіне, у краіне перамогшай працы,—існуе сапраўдная дэмакратыя.

Наша Сталінская Канстытуцыя з'яўляецца бліскучым вынікам заваёў соцыялізма, вынікам вялікіх дасягненняў партыі Леніна—Сталіна і ўсіх працоўных Совецкага Саюза. Толькі ў Совецкім Саюзе Канстытуцыя гарантуе ўсім працоўным права на працу і адпачынак, права на адукацыю і забеспячэнне ў старасці.

Толькі ў Краіне Советаў Канстытуцыя гарантуе поўнае роўнаправе жанчыны і забяспечвае шчаслівае мацярынства.

Толькі ў Краіне Советаў народы ўсіх нацый і рас роўнапраўныя і жывуць адзінай брацкай сям'ёй у Саюзе Совецкіх Рэспублік.

Таварышы!

За дваццаць год існавання совецкай улады наша краіна ператварылася з жабрацкай і ўбогай, некультурнй і адсталай у магутную соцыялістычную дзяржаву. Нашы перамогі і поспехі літаральна ва ўсіх галінах соцыялізма цяпер ужо агульнапрызнаны і нават класавыя ворагі нашы, праўда, са скрыгатам зубоўным, але вымушаны прызнаць гэта.

Але гэтыя нашы поспехі з'явіліся рэзультатам велізарнай працы і волі партыі Леніна—Сталіна, велізарных сіл рабочага класа, калгаснага сялянства і ўсіх працоўных. Гэта рэзультат непераўзыйдзенага кіраўніцтва партыяй, усім народам вялікага Сталіна. **(Бурныя апладысменты).**

Успомніце, таварышы, якую ролю адыгрывала партыя Леніна—Сталіна на працягу ўсёй нашай совецкай гісторыі. У гады грамадзянскай вайны і іншаземнай інтэрвенцыі, разрухі і голаду партыя Леніна—Сталіна была на першай лініі барацьбы, яна арганізоўвала масы, стварала ўзброеныя сілы рэволюцыі, вяла іх у бой і атрымлівала перамогі.

Мы маем цяпер магутную Чырвоную Армію. Але-ж быў час, калі наша Чырвоная Армія была дрэнна аснашчана і нават дрэнна накормлена.

І трэба было мець такую выдатную партыю, як наша партыя Леніна—Сталіна, каб упэўнена весці рабочых і бядняцкія масы наперад, на перамаганне ўсіх цяжкасцей да поўнай перамогі.

У агні грамадзянскай вайны наша партыя стварала не толькі Чырвоную Армію, але адначасова кавала і кадры будаўнікоў соцыялістычнай дзяржавы.

Перад партыяй рабочага класа стаяла тады велізарная задача— давесці пачатую справу да канца, разбіць усіх ворагаў соцыялістычнай рэволюцыі і, арганізуючы рабочы клас, а праз яго ўсіх працоўных— пабудаваць бяскласавую соцыялістычную дзяржаву.

Але каб гэта ажыццявіць, трэба было, перш за ўсё, забяспечыць адзінства і маналітнасць самой партыі.

Вы вельмі добра ведаеце, што наша партыя, гэта—жывы, пастаянна дзейнічаючы, магутны арганізм, вы ведаеце таксама, што нашу партыю не раз спрабавалі яе непрыяцелі і ворагі паслабіць знутры, разбіць, знішчыць.

Найвялікшая заслуга Леніна і Сталіна заключаецца ў тым, што яны, як сапраўдныя стратэгі пролетарскай рэволюцыі, неаслабна сачылі за тым, каб наша партыя была адзінаю, згуртаванаю і здольнаю ісці наперадзе змагаючыхся мас. Не раз партыя пад кіраўніцтвам Леніна

і Сталіна ачышчала свае рады ад ныцікаў і малавераў, ад людзей, страціўшых веру ў справу рэволюцыі, і ад прамых здраднікаў і прадажнікаў.

Рабочы клас і працоўныя Совецкага Саюза, кіруемыя партыяй Леніна—Сталіна, дабіліся найвялікшых перамог—яны маюць сваю бяс-класавую соцыялістычную дзяржаву. Але наша мэта—комунізм. Нам усім прадстаіць яшчэ велічэзная напружаная работа. Нашы рады, рады перадавых атрадаў, павінны быць моцнымі, вернымі справе комунізма. Няма і не можа быць месца здраднікам і прадажнікам у асяроддзі барацьбітоў у радах нашай выдатнай партыі! Мы адкрылі бязлітасную барацьбу з здраднікамі і шпіёнамі, якіх засылаюць да нас і фабрыкуюць у нас троцкія і іншаземныя разведкі, і не спынім гэтай барацьбы, пакуль не знішчым поўнасцю і без астатку ўсіх ворагаў народа, ўсіх ворагаў соцыялізма.

Вы—працоўныя беларускай сталіцы, ведаеце, як многа зла, як многа агіднасцяў рабілі здраднікі і шпіёны тут у вас, на беларускай зямлі. Вы ведаеце, якімі метадамі праводзілі сваю падрыўную справу ўсе гэтыя паны. Але ім не ўдалося настроіць беларускіх калгаснікаў і рабочых супроць нашай партыі і ўрада,—а яны гэтага ўпарта і ўсімі сродкамі подласці дабіваліся, яны былі выкрыты і панеслі заслужаную расплату.

Няхай ведаюць і добра запомняць усе, хто ўздумае стаць на шляху пераможнага шэствія мільёнаў барацьбітоў за новае жыццё, што яны будуць расціснуты, як чэрві.

Ні жалю, ні літасці ворагу!

Таварышы! Мы маем велізарныя поспехі за 20 год нашай гісторыі, мы маем выдатную армію, выдатную соцыялістычную гаспадарку—дасканалыя фабрыкі і заводы, дасканалыя большэвіцкія калгасы, мы маем велізарныя дасягненні ў галіне культуры, мы пабудавалі ўжо першую стадыю комунізма—соцыялізм, але наша мэта—комунізм. Для дасягнення гэтай канчатковай мэты нам патрэбна яшчэ грунтоўна папрацаваць. **(Воклічы—«ура». Доўгія апладысменты).**

Мы абкружаны з усіх канцоў капіталістычнымі дзяржавамі. Капіталізм варожы нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву. Фашызм не перастае пасылаць пагрозы па адрасу Совецкага Саюза. Мы з вамі абавязаны мець напагатове нашу Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію, здольную абараняць нашу вялікую радзіму і яе соцыялістычныя заваяванні. Наша Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія, як увесь народ, гатова стаць на абарону нашай радзімы. **(Бурныя апладысменты).** Але мала быць гатовымі стаць на абарону сваёй радзімы. Трэба, каб нашае соцыялістычнае будаўніцтва, нашы заводы і фабрыкі, нашы соўгасы і калгасы былі падняты на такую вышыню, якая дазволіць нам не толькі паспяхова адбіваць ворага, але таксама забяспечыць нармальны ход нашага жыцця.

Класавы вораг не пакіне нас у спакоі. Калі мы карыстаемся зда-

быткамі міру, то толькі таму, што мы маем выдатныя ўзброеныя сілы і добрую социялістычную гаспадарку. Прыкладзем усе сілы да таго, каб нашае далейшае развіццё было магутным і моцным, каб усе нашы шматлікія ворагі доўга і добра падумалі, перш чым адважыцца напасці на нашу радзіму, а калі нападуць, то каб тут-жа быстра закаяліся.

Таварышы! Выбары ў Вярхоўны Совет Саюза ССР—гэта лепшы паказальнік адзінства і магутнасці Совецкага Саюза—радзімы ўсіх працоўных.

Совецкая Беларусь прадстаўляе сабой фарпост соцыялізма. Яна стаіць на рубяжы двух светаў—гніючага капіталізма Захаду і гіганцка растучага соцыялізма ў нашай Совецкай краіне. На долю працоўных Совецкай Беларусі выпала, такім чынам, асаблівая задача—быць пастаянным вартавым совецкіх варот, асабліва пільна сачыць за тым, каб вораг не пранік у совецкі дом, і ў патрэбны момант быць гатовымі, разам з нашай Чырвонай Арміяй, дастойна сустрэць яго ля сваіх граніц.

12 снежня вы будзеце галасаваць за маю кандыдатуру ў Вярхоўны Совет, а, стала быць, за нашу партыю, партыю Леніна—Сталіна, за нашу большэвіцкую справу, за справу соцыялізма, за справу ўсіх працоўных, за вашу і вашых дзяцей справу.

Абяцаю, таварышы, быць дастойным вашым прадстаўнікам і поўнасцю апраўдаць вашае давер'е і надзеі. **(Бурныя апладысменты).**

Няхай жыве наша вялікая шчаслівая совецкая радзіма!

Няхай жыве наш вялікі совецкі народ!

Няхай жывуць працоўныя слаўнай Беларусі!

Няхай жыве наша вялікая партыя Леніна—Сталіна!

Няхай жыве вялікі арганізатар працоўных, тварэц вялікай совецкай дзяржавы, будаўнік комунізма **Вялікі Сталін!**

**(Шматразовае «ура», доўгія апладысменты, «Інтэрнацыянал»).**

---

## *Наркому абароны, першаму маршалу Совецкага Саюза таварышу К. Е. ВАРАШЫЛАВУ*

Дарагі наш Кліменцій Ефрэмавіч!

*З пачуццём найвялікшай радасці даведаліся мы аб тым, што ЦК ВКП(б) дазволіў Вам балатыравацца ў нашай выбарчай акрузе.*

*Мы, выбаршчыкі менскай гарадской выбарчай акругі па выбарах у Совет Саюза, усведамляем, які велізарны гонар аказаў нам Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай комуністычнай партыі большэвікоў і ганарымся, што ад нашай выбарчай акругі мы пашлем у Совет Саюза Вас, дарагі Кліменцій Ефрэмавіч. І за гэта мы, сабраўшыся на агульнагарадскі акруговы мітынг, пасылаем сардэчную падзяку Цэнтральнаму Камітэту Ўсесаюзнай комуністычнай партыі большэвікоў і нашаму дарагому таварышу Сталіну.*

*Мы запэўніваем ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна, што кожны з нас з найвялікшай радасцю аддасць свой голас за Вас, Кліменцій Ефрэмавіч, як за лепшага з лепшых большэвікоў, вернага сына нашай большэвіцкай партыі і вялікага працоўнага народу нашай краіны, бліжэйшага саратніка найвялікшых людзей нашай эпохі Владзіміра Ільіча Леніна і таварыша Сталіна.*

*Мы з найвялікшай радасцю будзем галасаваць за Вас таму, што ўсё Ваша слаўнае жыццё, жыццё страснага рэволюцыянера-большэвіка, неразрыўна звязана з астрэйшай барацьбой партыі і рабочага класа за вызваленне чалавецтва ад рабства, жабрацтва і невуцтва, за светлае і шчаслівае жыццё працоўных нашай радзімы.*

*Мы ведаем, як у гады глыбокага падполля, зверскага царскага рэжыму Вы разам з Леніным і Сталіным вялі бясстрашную барацьбу за справу комунізма.*

*Мы ведаем, як у гады рэволюцыі Вы былі першым у шарэнгах байцоў за пролетарскую рэволюцыю ў нашай краіне.*

*Мы помнім, як Вы ў гады грамадзянскай вайны, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, выконвалі баявыя заданні Владзіміра Ільіча Леніна, будавалі і ўмацоўвалі нашу доблесную Чырвоную Армію, якая з чэсцю разграміла ўсіх белагвардзейцаў і інтэрвентаў, якія прабавалі скінуць совецкую ўладу.*

*Беларускі народ помніць, як Вы, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна і па Сталінскаму плану, разграмілі белапалякаў, вызвалілі Савецкую Беларусь ад польскіх паноў і капіталістаў і далі магчымасць беларускаму народу свабодна будаваць сваё шчаслівае і радаснае жыццё.*

*Мы ведаем, што пад Вашым кіраўніцтвам гіганцкі вырасла несакрушымая магутнасць і моц нашай слаўнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, якая ў любы момант дасць знішчальны адпор усім тым, хто пасмее пасягнуць на нашу соцыялістычную радзіму.*

*Мы Вас ведаем, як беззаветнага барацьбіта за справу партыі Леніна—Сталіна, ведаем Вашу непрымірымасць у барацьбе з ворагамі народу, падлейшымі здраднікамі радзімы, прэзрэннымі наймітамі фашызма—трацкісцка-бухарынскай бандай.*

*Усё Ваша жыццё звязана з жыццём і барацьбой партыі Леніна—Сталіна за ідэалы чалавецтва. Усё Ваша жыццё кроўна звязана з жыццём і барацьбой рабочага класа і працоўных за соцыялізм у нашай краіне.*

*Мы цвёрда ўпэўнены, што і ў далейшай рабоце, як дэпутат вярхоўнага органа нашай улады, Вы з яшчэ большай страснасцю будзеце змагацца за нашу агульную справу—за справу Леніна—Сталіна, за комунізм.*

*Вы—верны сын слаўнай партыі Леніна—Сталіна.*

*Вось чаму, аддаючы голас за Вас, у Вашай асобе мы галасуем за нашу партыю, за ленінска-сталінскі Цэнтральны Камітэт, за нашага дарагога і горача любімага таварыша Сталіна.*

*Няхай жыве наша слаўная партыя Леніна—Сталіна і яе слаўны штаб—ЦК ВКП(б)!*

*Няхай жыве наш слаўны жалезны нарком—першы маршал Савецкага Саюза Кліменцій Ефрэмавіч Варашылаў!*

*Няхай жыве наш любімы друг і настаўнік таварыш Сталін!*

---



*Клімент Ефрэмавіч ВАРАШЫЛАЎ*

*Член Палітбюро*
*Цэнтральнага Камітэта Ўсесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў)*

*Народны Камісар Абароны Саюза ССР*

*Маршал Совецкага Саюза*

*Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР ад Менскай гарадской выбарчай акругі*

## КЛІМЕНТ ЕФРЭМАВІЧ ВАРАШЫЛАЎ

### (біяграфія)

*Клімент Ефрэмавіч ВАРАШЫЛАЎ нарадзіўся ў 1881 г. у Донбасе, у сяле Верхнім, Бахмуцкага павета, былой Екацерынаслаўскай губерніі. Яго бацька працаваў батраком, працяглы час шахцёрам, потым вартаўніком на чыгунцы, маці займалася падзённай работай.*

*З дзіцячых год Клімемту Ефрэмавічу прышлося адчуць цяжкую долю бедняка і пролетарыя. Яшчэ падлеткам ён вымушан быў пайсці на работу ў шахты—выбіраць калчадан, за што атрымліваў 10 кап. у дзень, а некалькі пазней разам з бацькам пасвіць жывёлу ў памешчыка і працаваць батраком у кулака. З прычыны адсутнасці сродкаў у бацькоў Клімент Ефрэмавіч вымушан быў спыніць вучобу з 3 класа земскага вучылішча, дабіваючыся павышэння сваіх ведаў на працягу ўсіх паследуючых год упартай і сістэматычнай самаадукацыйнай работай.*

*Пятнаццаці год тав. ВАРАШЫЛАЎ паступае «хлопчыкам» на металургічны завод «ДЮМО» пры станцыі Алчэўскай (цяпер г. Варашылаўск). Тут ён атрымаў спачатку кваліфікацыю падручнага слесара, затым слесара і, нарэшце, машыніста крана.*

*У 1897 годзе тут-жа ў Алчэўску ў тав. ВАРАШЫЛАВА адбываецца першая сутычка з царскай паліцыяй, за якой паследваў і першы арышт. На гэтым-жа заводзе тав. ВАРАШЫЛАЎ з групай перадавых рабочых скалаціў першы рэволюцыйны гурток. У 1899 г. Клімент Ефрэмавіч узначаліў забастоўку рабочых-кранаўшчыкаў. У сувязі з гэтай забастоўкай яго арыштавалі, а пасля разгрому забастоўкі выгналі з завода з занясеннем у «чорныя спісы», у выніку чаго ён цэлыя тры гады не мог атрымаць работы.*

*І толькі ў 1903 годзе тав. ВАРАШЫЛАВУ ўдалося паступіць у Луганску (цяпер Варашылаўград) на машынабудаўнічы завод Гартмана (цяпер паравозабудаўнічы завод імя Кастрычніцкай Рэволюцыі). Завод гэты ўжо тады быў адным з буйнейшых у краіне, а ў жыцці Луганска ён займаў рашаючае месца.*

*Тут-жа ў Луганску ў канцы 1903 года тав. ВАРАШЫЛАЎ уступіў у соцыял-дэмакратычную рабочую арганізацыю і адразу-ж прымкнуў да большэвікоў. Ужо ў 1904 годзе ён быў выбран членам Луганскага камітэта партыі.*

*У першую рускую рэволюцыю 1905—1907 г. тав. ВАРАШЫЛАЎ, які насіў партыйную клічку «ВАЛОДЗЯ», з'яўляўся правадыром рабочага Луганска. У лютым і ў ліпені 1905 г. ён паспяхова кіраваў забастоўкай Гартманаўскага завода і быў выбран старшынёй дэпутацкага схода (фактычна совета рабочых дэпутатаў) завода. Пасля разгрому ліпеньскай забастоўкі рабочых Гартманаўскага завода Клімент*

*Ефрэмавіч быў арыштован, зверскі збіт і пасаджан у турму, у якой знаходзіўся да канца 1905 года, калі па аднадушнаму патрабаванню падышоўшай да турмы шматтысячнай дэманстрацыі рабочых, мясцовыя ўлады вымушаны былі яго вызваліць.*

*У 1906 г. тав. ВАРАШЫЛАЎ выбіраецца дэпутатам на IV (Стакгольмскі) з'езд партыі, па шляху на які ён у Пецербургу ўпершыню сустрэўся з ЛЕНІНЫМ. У 1907 г. ён удзельнічаў дэлегатам на V (Лонданскім) з'ездзе партыі. На гэтых з'ездах тав. ВАРАШЫЛАЎ сустракаецца з ЛЕНІНЫМ і СТАЛІНЫМ, становіцца іх бліжэйшым і верным вучнем.*

*Пасля IV з'езда пад кіраўніцтвам тав. ВАРАШЫЛАВА ў Луганску шырока разгарнулася работа па стварэнню баявых дружын рабочых, для якіх Клімент Ефрэмавіч асабіста двойчы прывозіў з Фінляндыі значныя партыі зброі.*

*У канцы 1907 г. тав. ВАРАШЫЛАВА зноў арыштоўваюць. Перыяд сталыпінскай рэакцыі і гады ўздыму рабочага руху (1908—1914) Клімент Ефрэмавіч правёў большай часткай у турмах, архангельскай і чэрдынскай ссылках, дзе вёў палітычную работу сярод ссыльных, адначасова ўпарта працуючы над павышэннем сваёй тэарэтычнай падрыхтоўкі. У 1908 г. пасля ўдалага пабегу з г. Пенегі тав. ВАРАШЫЛАЎ на працягу больш, чым поўгода вёў партыйную работу ў Баку пад кіраўніцтвам таварыша СТАЛІНА.*

*Клімент Ефрэмавіч з'яўляецца ў гэты час членам Бакінскага камітэта партыі і сакратаром Бібі-Эйбацкага партыйнага камітэта. Знаходзячыся ў Баку, Клімент Ефрэмавіч вёў вялікую профсаюзную работу сярод рабочых Бібі-Эйбацкага раёна.*

*У сакавіку 1914 года тав. ВАРАШЫЛАЎ вярнуўся ў Донбас з апошняй ссылкі, але праследуемы паліцыяй вымушан быў пераехаць у Царыцын, дзе працаваў на артылерыйскім заводзе, адначасова вёдучы партыйную работу.*

*У гады імперыялістычнай вайны, працуючы ў Царыцыне, а затым у Петраградзе, тав. ВАРАШЫЛАЎ разам з усёй партыяй змагаўся за ператварэнне імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую. Прымаючы актыўны ўдзел у лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1917 года, Клімент Ефрэмавіч прымаў актыўны ўдзел і шмат часу аддаваў рэвалюцыйнай рабоце сярод салдат Петраградскага гарнізона. Ён узняў на паўстанне Ізмайлаўскі гвардзейскі полк. Клімент Ефрэмавіч быў выбран членам Петраградскага Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Па хадайніцтву луганскіх большэвікоў тав. Варашылаў быў накіраван Цэнтральным Камітэтам партыі ў Луганск, дзе быў выбран старшынёй гарадскога партыйнага камітэта, арганізаваў і рэдагаваў большэвіцкую газету «Донецкий пролетарий». У Луганску тав. ВАРАШЫЛАЎ быў выбран старшынёй гарадской думы, старшынёй Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Асобая ўвага Клімента Ефрэмавічам удзялялася фарміраванню Чырвонай Гвардыі. Пад яго кіраўніцтвам рабочыя Луганска фактычна сканцэнтравалі ўладу ў сваіх руках яшчэ да Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэвалюцыі.*

*Выбраны ва ўстаноўчы сход ад былой Екацерынаслаўскай губерніі па спіску большэвікоў тав. ВАРАШЫЛАЎ у снежні 1917г. прыехаў у Петраград. Тут ён неўзабаве быў назначан «чырвоным граданачальнікам»—старшынёй камітэта па ахове Петраграда і разам з Ф. Э. Дзержынскім удзельнічаў у арганізацыі і рабоце ВЧК.*

У сакавіку 1918 г. тав. ВАРАШЫЛАЎ вярнуўся ў Луганск, дзе арганізаваў 1-шы Луганскі социялістычны партызанскі атрад і на чале яго вёў упартыя баі супроць германскіх акупантаў на Украіне. У красавіку 1918 года тав. ВАРАШЫЛАЎ аб'яднаў шматлікія украінскія чырвонагвардзейскія атрады ў 5 Украінскую армію і арганізаваў прарыў гэтай арміі праз кальцо германскіх войск і данскіх белаказакаў к Царыцыну. К пачатку ліпеня 1918 года тав. Варашылаў прывёў у Царыцын магутную шматтысячную Чырвоную Армію.

У кіраўніцтве барацьбой на Паўднёвым фронце, у гераічнай абароне Царыцына тав. ВАРАШЫЛАЎ стаў першым памочнікам таварыша СТАЛІНА, будучы паслядоўна камандуючым Царыцынскім фронтам, намеснікам камандуючага і членам Ваенна-Рэвалюцыйнага Савета Паўднёвага фронта, камандуючым 10 арміяй, абараняўшай Царыцын. У канцы 1918 года пасля вызвалення Украіны ад германскага ярма тав. ВАРАШЫЛАЎ быў назначан Народным Камісарам Унутраных Спраў Украінскай Рэспублікі.

У маі 1919 года тав. ВАРАШЫЛАЎ у якасці камандуючага войскамі Харкаўскай ваеннай акругі кіраваў ліквідацыяй мяцежу Грыгор'ева, затым у якасці камандарма XIV кіраваў абаронай Украіны ад дзенікінцаў і петлюраўцаў. У лістападзе 1919 года ён быў назначан членам Рэвваенсовета 1 Коннай арміі.

Асабіста кіруючы разам з тав. Будзённым Коннай арміяй, тав. ВАРАШЫЛАЎ удзельнічаў у ажыццяўленні сталінскага плана разгрому Дзенікіна (у 1919—20 гг.), у вызваленні Украіны ад белапалякаў (у 1920 г.), у ліквідацыі врангелеўскага фронта. У сакавіку 1921 года тав. ВАРАШЫЛАЎ быў паслан X партыйным з'ездам на чале групы дэлегатаў з'езда на ліквідацыю кранштацкага мяцежу. Клімент Ефрэмавіч з'явіўся ініцыятарам рашучых мер супроць мяцежнікаў, натхнісцелем і ўдзельнікам паспяховай атакі па ільду Кранштацкай крэпасці.

Назначаны ў 1921 годзе Камандуючым Паўночна-Каўказскай ваеннай акругай, тав. ВАРАШЫЛАЎ поўнасцю ліквідаваў на Паўночным Каўказе бандыцкія выступленні астаткаў белагвардзейшчыны. Ён прымаў дзейны ўдзел у арганізацыі аўтаномных социялістычных рэспублік на Паўночным Каўказе. У 1924—25 г. Клімент Ефрэмавіч камандаваў Маскоўскай ваеннай акругай. З 6 лістапада 1925 года пасля смерці М. В. Фрунзе тав. Варашылаў бяззменна працуе Народным Камісарам па Ваенных і Марскіх Справах, а з 21 чэрвеня 1934 года—Народным Камісарам Абароны СССР.

Пад кіраўніцтвам таварыша СТАЛІНА на базе пераможнага выканання першай і другой пяцігодак тав. ВАРАШЫЛАЎ правёў карэнную рэканструкцыю Чырвонай Арміі, ператварыўшы яе ў лепшую армію ў свеце.

На працягу ўсяго свайго жыцця, усёй сваёй партыйнай работы Клімент Ефрэмавіч ВАРАШЫЛАЎ з'яўляецца адным з лепшых прадстаўнікоў старой большэвіцкай гвардыі і яе кіруючага штаба—Цэнтральнага Камітэта. Непахісны большэвік, непрымірымы барацьбіт за ленінізм, ён пад кіраўніцтвам ЛЕНІНА і СТАЛІНА і ў годы барацьбы з царызмам, і ў рэвалюцыю 1917 года, і ў совецкі перыяд вёў і вядзе непрымірымую барацьбу супроць усіх і ўсялякіх ворагаў рэвалюцыі, ворагаў народа .Трацкісты, зіноўеўцы, бухарынцы, буржуазныя нацыяналісты—усе гэтыя прэзрэнныя ворагі социялізма і народа, якія ператварыліся ў прамых шпіёнаў германа-япона-польскай разведкі, адчулі на сабе ўсю сілу варашылаўскіх udараў.

*З 1921 года тав. ВАРАШЫЛАЎ бяззменны член ЦК ВКП(б), а з 1926 года—член Палітбюро ЦК ВКП(б).*

*Вышаўшы з радоў рабочага класа тав. ВАРАШЫЛАЎ быў і астаецца сапраўдным сынам свайго вялікага народа.*

*За баявыя заслугі, мужнасць і майстэрства ў барацьбе з ворагамі совецкага народа тав. ВАРАШЫЛАЎ мае наступныя ўзнагароды:*

*Ордэн Чырвонага Сцяга ў 1920 годзе за разгром белых на паўночным Каўказе, за захоп 1 Кубанскага корпуса на чале са штабам.*

*Ганаровую рэволюцыйную зброю з ордэнам Чырвонага Сцяга ў 1920 годзе за паспяховую ліквідацыю врангелеўскага фронта.*

*Ордэн Чырвонага Сцяга ў сакавіку 1921 года за ліквідацыю Кранштацкага мяцежу, за мужнасць і майстэрства пры штурме Кранштацкай крэпасці.*

*Ордэн Чырвонага Сцяга ў 1925 годзе за паспяховую ліквідацыю бандытызма ў СКВО.*

*Ордэн Чырвонага Сцяга ў 1930 годзе ў сувязі з 10-годдзем І Коннай і 12-годдзем РСЧА па шматлікіх хадайніцтвах сходаў рабочых, сялян, чырвонаармейцаў.*

*Ордэн Леніна ў лютым 1935 года ў сувязі з 15-годдзем 1 Коннай арміі.*

*Ордэн Чырвонага Працоўнага Сцяга УзбССР—у лютым 1930 года.*

*Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга Таджыкскай ССР—у студзені 1933 года.*

*Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга ЗакССР—у лютым 1933 года.*

*За выключныя заслугі перад Радзімай Кліменту Ефрэмавічу ВАРАШЫЛАВУ прысвоена званне Маршала Совецкага Саюза.*

---

В. М. Молатаў

# Да дваццацігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі*

## I. Значэнне нашай перамогі

Таварышы!

Сёння працоўныя Совецкага Саюза з усведамленнем вялікай гордасці святкуюць дваццацігоддзе Кастрычніцкай рэвалюцыі. (Бурныя апладысменты).

Тыя з нас, хто пачаў сваё свядомае жыццё да 1917 года, уяўляюць па ўласнаму вопыту выкліканыя Кастрычніцкай рэвалюцыяй карэнныя змены ў нашым жыцці. Пакаленне, вырасшае ў апошнія дваццаць год, удзельнічала ў канчатковым разгроме сіл старой, буржуазна-памешчыцкай Расіі і ў стварэнні новага, соцыялістычнага ладу. У гэтыя дні ва ўсіх нашых гарадах і вёсках, у кожным жывым кутку краіны, мыслі працоўных прыкаваны да падзей вялікага дваццацігоддзя соцыялістычнай рэвалюцыі, да яе слаўных заваяванняў і да светлай будучыні, якая раскрылася перад намі.

Не толькі рабочыя і сяляне Совецкага Саюза, але таксама працоўныя капіталістычных краін і калоній перажываюць у гэтыя дні радаснае пачуццё па выпадку перамогі Кастрычніцкай рэволюцыі. (Бурныя апладысменты). У няўхільным росце сіл Совецкага Саюза, у росквіце гэтых сіл, што адбываецца на іх вачах, яны бачаць, чаго могуць дасягнуць працоўныя, авалодаўшы дзяржаўнаю ўладай. Што-б ні рабілі нашы ворагі, ворагі Кастрычніцкай рэволюцыі, што-б яны не выдумлялі для ўмалення яе значэння, праўда аб нашай рэволюцыі,—безыскусная, непрыкрашаная праўда аб Совецкім Саюзе,—пранікае ўсюды, пранікае далёка за межы СССР і заваёўвае на свой бок усё свядомае, усё здольнае да барацьбы супроць капіталізма. (Бурныя апладысменты).

Вялікая сіла і міжнароднае значэнне Кастрычніцкай рэволюцыі заключаецца ў тым, што яна ажыццявіла затоеныя мары працоўных аб вызваленні ад прыгнёту эксплаататараў і ад рабскай працы ў капіталістаў і памешчыкаў. Яна ажыццявіла тое, аб чым марылі лепшыя людзі чалавецтва на працягу многіх, многіх вякоў.

* Даклад на ўрачыстым пасяджэнні ў Вялікім тэатры 6 лістапада 1937 года.

Прайшло не адно тысячагоддзе да так званай «новай эры». Прайшло яшчэ звыш 1900 год «новай эры», калі, нарэшце, знайшлася сіла, знайшлася рэволюцыйная арганізацыя, якая павяла працоўных у бой супроць капітала, супроць улады буржуазіі і памешчыкаў. У 1917 годзе рабочыя разам з сялянамі разграмілі сваіх прыгнятальнікаў, захапіўшы ўладу ў свае рукі, устанавіўшы дыктатуру пролетарыята ў нашай краіне.

Паскорыла социялістычную рэволюцыю першая сусветная імперыялістычная вайна. Яна давяла да роспачы рабочых і народныя масы не толькі Расіі. Аднак, найбольш слабым звяном сусветнага капіталізма аказалася ў гэты час старая, царская, буржуазна-памешчыцкая Расія. З другога боку, найбольш рэволюцыйным класам ва ўсім свеце аказаўся рабочы клас нашай краіны, які стварыў большэвіцкую партыю пад кіраўніцтвам вялікага Леніна. **(Апладысменты).** Імперыялістычная вайна, якая зацягнулася, спачатку прывяла да пагібелі царызма. Яна настолькі знясіліла сілы Расіі, што дзяржаве пачаў пагражаць поўны крах, развал. Увесь народ патрабаваў міру, перадышкі. Стаяўшыя-ж ва ўладзе кадэты, эсэры і меншавікі, якіх падтрымлівала расійская буржуазія і англа-французскія імперыялісты, лемантавалі аб прадаўжэнні вайны «ва што-б там ні стала». Гэта ўлада хацела захаваць капіталізм і пануючае становішча буржуазных класаў. Яна не лічылася з тым, што шматмільённая маса сялянства звяргала царызм для таго, каб забяспечыць пераход памешчыцкай зямлі ў свае рукі. Замест перадачы зямлі сялянам кадэцка-эсэраўска-меншавіцкая ўлада карміла іх пустымі абяцанкамі. Становішча рабочых і іншых працоўных слаёў горада пагаршалася з кожным днём, а ўрад Керэнскага ўсё больш выяўляў сваю поўную няздольнасць змяніць становішча. Пытанне аб звяржэнні буржуазнай улады паўстала рабром. Тады большэвіцкая партыя звярнулася да рабочых і сялянскай беднаты з заклікам стаць на шлях рэволюцыі, якая, па выражэнню Леніна,

> «дасць перамогу над эксплаатататарамі, дасць зямлю сялянам, дасць мір народам, адкрые верны шлях да пераможнай рэволюцыі сусветнага социялістычнага пролетарыята».

Так вызначаў Ленін мэты рэволюцыі перад Кастрычніцкім паўстанием. Гэтыя мэты рабілі нашу рэволюцыю непадобнай на іншыя рэволюцыі.

У сілу ўсёй унутранай і знешняй абстаноўкі Кастрычніцкая рэволюцыя набыла асобны характар, адметны ад іншых рэволюцый. Падводзячы першыя вынікі Кастрычніцкай рэволюцыі на Ўсерасійскім з'ездзе Советаў у студзені 1918 года, Ленін гаварыў:

> «Усе вялікія рэволюцыі імкнуліся заўсёды змесці ўшчэнт стары капіталістычны лад, імкнуліся не толькі заваяваць палітычныя правы, але і вырваць самае кіраванне дзяржавай в рук

панаваўшых класаў, усякіх эксплаататараў і прыгнятальнікаў працоўных, каб раз назаўсёды палажыць мяжу ўсякай эксплуатацыі і ўсякаму прыгнечанню. Вялікія рэвалюцыі іменна і імкнуліся зламаць гэты стары эксплуататарскі дзяржаўны апарат, але да гэтага часу гэта не ўдавалася завяршыць да канца. І вось Расія, у сілу асаблівасцей свайго гаспадарчага і палітычнага становішча, цяпер першая дасягнула гэтага пераходу дзяржаўнага кіравання ў рукі саміх працоўных. Цяпер мы, на расчышчаным ад гістарычнага хламу шляху, будзем будаваць магутны, светлы будынак соцыялістычнага грамадства, ствараецца новы, нябачаны ў гісторыі, тып дзяржаўнай улады, воляй рэвалюцыі закліканай ачысціць зямлю ад усякай эксплуатацыі, гвалту і рабства». **(Выбух апладысментаў).**

У гэтых словах Леніным указана рашаючае адрозненне нашай рэвалюцыі ад усіх іншых рэвалюцый.

Усе іншыя рэвалюцыі, нават у лепшым выпадку, далей некатората расшырэння палітычных правоў і часовага палягчэння становішча працоўных не ішлі, калі выключыць Парыжскую Комуну з яе кароткачасовым поспехам, калі ўлада знаходзілася ў руках працоўных. Усе гэтыя рэвалюцыі пакідалі ўладу ў руках эксплаататараў і прыгнятальнікаў працоўных. Адных эксплаататараў змянялі ва ўладзе другія, але прывілеяваныя класы не пазбаўляліся свайго пануючага становішча. Пры ўсіх гэтых рэвалюцыях буржуазіі ўдавалася захоўваць сваю, **буржуазную, дыктатуру,** сваю ўладу.

Усё гэта не магло не прывесці да пэўнага расчаравання працоўных, якія ўдзельнічалі ў буржуазных рэвалюцыях. Працоўныя прымалі ўдзел у гэтых рэвалюцыях са сваімі мэтамі, са сваімі імкненнямі і надзеямі вызваліцца, нарэшце, ад прыгнёту ўладу маючых класаў. Але ўсе буржуазныя рэвалюцыі прыводзілі к таму, што гэтыя імкненні і надзеі разбіваліся аб супраціўленне эксплаататарскіх класаў, якія захоўвалі ўладу за сабой. Усе гэтыя рэвалюцыі канчаліся тым, што народ адчуваў сябе незадаволеным, не дасягнуўшым мэты. Гэта параджала ў масах расчараванне ў рэвалюцыі, недавер'е працоўных да сваіх сіл, што было на-руку прыгнятальніцкім класам.

У кастрычніку 1917 года адбыўся сусветна-гістарычны паварот ад ранейшых рэвалюцый, ад рэвалюцый буржуазнага тыпу да рэвалюцыі новага, соцыялістычнага, тыпу. Упершыню ў гісторыі ўлада эксплаататараў была звергнута, перамагла **дыктатура рабочага класа,** дзяржаўнае кіраванне перайшло ў рукі працоўных. З рабоў, з прыгнечаных, з эксплаатуемых працоўныя ператварыліся ў свабодных людзей і ў поўных гаспадароў свайго лёсу. Рабочыя і працоўныя сяляне, стаўшы ва ўладзе, упершыню атрымалі магчымасць наладзіць жыццё так, як яны самі хочуць. Вырашыўшы карэннае пытанне, пытанне аб уладзе, рабочы клас разам з сялянствам пачаў новае

жыццё, прыступіў да будаўніцтва «светлага будынка **сацыялістычнага** грамадства».

З перамогай Кастрычніцкай рэвалюцыі збыліся мары працоўных і ўсіх лепшых прадстаўнікоў чалавецтва. З гэтага часу пачалося спаборніцтва двух светаў, заснаваных на процілеглых прынцыпах, спаборніцтва новага грамадства са старым, спаборніцтва сацыялізма з капіталізмам. Да гэтага спаборніцтва прыкавана ўвага ва ўсіх краінах.

Асновай старога грамадства была прыватная ўласнасць, калі ўсе сродкі вытворчасці належалі капіталістам, багацеям. На гэтым трымалася ўлада капіталістаў, на магутнасці капітала. Совецкая ўлада ліквідавала капіталістычную сістэму гаспадаркі і адмяніла прыватную ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці, устанавіўшы сацыялістычную сістэму гаспадаркі і сацыялістычную ўласнасць. Сродкі і прылады вытворчасці сталі належаць або сацыялістычнай дзяржаве, або нашым, сацыялістычным калгасам і кааперацыі. У тым і другім выпадку яны сталі служыць не інтарэсам нажывы асобных людзей за кошт іншых, а інтарэсам народу, інтарэсам працоўных. Гэта не маленькая змена, а карэнная перабудова грамадства, карэнная перадзелка яго эканамічнай асновы.

Адмена прыватнай уласнасці на зямлю, адмена прыватнай уласнасці на фабрыкі і заводы, адмена прыватнай уласнасці на чыгункі і жыллёвыя дамы ў гарадах і іншыя меры такога роду прывялі да поўнай ліквідацыі капіталістычных класаў і ўсіх паразітычных, непрацоўных элементаў у нашай краіне. У нас не стала ні капіталістаў, ні памешчыкаў, ні кулакоў, ні купцоў, ні іншых захрыбетнікаў народу. Нашы законы не сталі дапускаць іх існавання і новага з'яўлення якіх-небудзь паразітаў. Наш грамадскі лад заснован на прыязных адносінах рабочых і сялян, якія праз советы працоўных кіруюць краінай і будуюць сваё новае жыццё.

Ці не ў гэтым і заключаліся асноўныя мэты Кастрычніцкай рэвалюцыі? Безумоўна, у гэтым. Значыць, рабочы клас разам з працоўнымі сялянамі, узяўшы ўладу ў свае рукі, сапраўды скарыстаў з яе, каб ажыццявіць асноўныя мэты Кастрычніцкай рэвалюцыі. З якімі велізарнымі поспехамі ажыццяўляліся гэтыя мэты, што ўжо намі заваявана, а цяпер ужо і запісана ў нашым асноўным законе,— аб усім гэтым простымі, але агніста-яркімі словамі гаворыць прынятая Совецкім Саюзам Сталінская Канстытуцыя. **(Апладысменты).** Сталінская Канстытуцыя гаворыць аб пераможным поспеху Кастрычніцкай рэвалюцыі, аб тым, што наша рэвалюцыя на справе дабілася асноўнай сваёй мэты і расчысціла сабе шлях да новых вялікіх заваяванняў.

Адсюль рост міжнароднага значэння Кастрычніцкай рэвалюцыі і створанага ёю новага ладу.

Асновай новага ладу з'яўляецца ўдзел працоўных мас у дзяржаў-

ным кіраванні. Без гэтага ні аб якіх поспехах совецкай улады не магло быць і гутаркі. Толькі дзякуючы таму, што ў нашай краіне перамагла дыктатура пролетарыята і ажыццёўлен дэмакратызм вышэйшага тыпу, дэмакратызм соцыялістычны, які адкрывае неабмежаваныя магчымасці для ўдзелу ўсіх працоўных у дзяржаўным кіраванні, толькі дзякуючы гэтаму існуе і няўхільна мацнее совецкая дзяржава. **(Апладысменты).**

Гэты дэмакратызм не падобен на дэмакратызм буржуазных дзяржаў. Хто гэтага не зразумеў, той—не соцыяліст, не пролетарскі рэволюцыянер, той не можа быць свядомым прыхільнікам вызвалення працоўных ад прыгнёту капітала.

У буржуазных дзяржавах дэмакратычнага тыпу абвяшчаюць фармальную роўнасць правоў грамадзян, але адны з іх як былі, так і астаюцца эксплаатуемымі і прыгнечанымі, а другія—эксплаататарамі і прыгнятальнікамі свайго народу! Нават у самай дэмакратычнай буржуазнай краіне дэмакратыя для працоўных абмежавана вузкімі рамкамі і церпіцца толькі пастолькі, паколькі гэта не парушае пануючага становішча эксплаататарскіх класаў. У буржуазных краінах дэмакратызм выкарыстоўваецца панамі становішча ў сваіх інтарэсах, а ўсякае расшырэнне палітычных правоў працоўных натыкаецца на ўпартае супраціўленне.

Наш лад заснован на іншым. Наш лад становіцца тым мацней, чым больш актыўна і ўсебакова працоўныя ўдзельнічаюць у дзяржаўным кіраванні.

Сталінская Канстытуцыя дала новы довад таму, што мы стаім на глебе ўсебаковага развіцця дэмакратызма працоўных, што мы ідзем па шляху ўсямернага ўзмацнення ўдзелу працоўных у справах дзяржавы і ва ўсім нашым грамадскім жыцці. Дэмакратызм нашага ладу характарызуецца не толькі скасаваннем усякіх абмежаванняў у выбарчых правах для ўсіх грамадзян Совецкага Саюза, не толькі поўным роўнапраўем жанчыны з мужчынай, не толькі поўным роўнаправуем усіх народаў СССР і ўзмоцненай дзяржаўнай дапамогай адсталым нацыянальнасцям. Дэмакратызм нашага ладу характарызуецца, акрамя таго, тым, што наша Канстытуцыя гаворыць аб такіх правах працоўных, як права на працу, права на адпачынак, права на бясплатную асвету, аж да вышэйшай для ўсіх працоўных. **(Апладысменты).** Ні аб чым падобным не ведаюць канстытуцыі буржуазных дзяржаў, уключаючы і самыя дэмакратычныя з іх. Аб такіх правах працоўных гаворыць толькі Сталінская Канстытуцыя, Канстытуцыя перамогшага соцыялізма, Канстытуцыя соцыялістычнага дэмакратызма. **(Апладысменты).**

Паглядзіце не толькі на Канстытуцыю. Вазьміце простыя факты. Вазьміце такі факт, як грамадскія адносіны да простых людзей працы, хаця-б да тых, каго мы называем стаханаўцамі фабрык, заводаў, калгасаў. У нашай краіне простыя рабочыя і работніцы,

простыя калгаснікі і калгасніцы, даўшыя добрыя ўзоры работы на вытворчасці, атрымліваюць усеагульную вядомасць і пашану. У якой краіне магчыма, каб учора яшчэ нікому невядомыя стаханаўцы з простых рабочых і сялян, толькі таму, што яны далі добрыя ўзоры працы на фабрыцы або ў іншай грамадскай гаспадарцы, становяцца самымі вядомымі імёнамі і любімцамі народу **(Апладысменты).** Хіба што-небудзь падобнае магчыма ў буржуазных краінах, дзе самой працай рабочага ўласна ніхто не цікавіцца, а гаспадар, на якога працуе рабочы, цікавіцца толькі адным—прыбыткам, які атрымліваецца ад гэтай працы.

Ні ў адной буржуазнай краіне немагчыма ўявіць такога становішча, каб простыя людзі працы за сваю добрую работу сталі вядомы ўсяму народу. А ў нас гэта ўвайшло ў звычай. Усім нам вядома, што гэта адбываецца не ў шкоду людзям навукі і мастацтва, не ў шкоду будаўнікам гаспадаркі і культуры. Выдатныя прадстаўнікі ўсіх галін нашага будаўніцтва і ўсіх відаў творчай дзейнасці, уся наша працоўная інтэлігенцыя акружаны ўвагай грамадства і актыўным падтрыманнем дзяржавы. Працуючы для народу, сумленна кіруючы той ці іншай галіною справы, нашы кіраўнікі «маюць усе падставы карыстацца давер'ем і любоўю народу», як указаў на гэта таварыш Сталін. **(Апладысменты).** Такі лад, дзе працоўныя стаяць ва ўладзе і дзе чалавеку працы належыць ганаровае месца ў грамадстве, не можа не прыцягваць спачування працоўных усіх краін. Міжнароднае значэнне новага совецкага ладу расце на нашых вачах.

Далей. Вядома таксама роля совецкай дзяржавы ў міжнародных адносінах. Заснованы на вялікай дружбе народаў, СССР займае асобае становішча сярод іншых дзяржаў у буйнейшых міжнародных падзеях.

Даволі сказаць аб пазіцыі Совецкага Саюза ў адносінах да іспанскага народу, які змагаецца за свае дэмакратычныя правы і свабоду. Совецкі Саюз не толькі не хаваў сваіх спачувальных адносін да рэспубліканскай Іспаніі, але адкрыта заявіў, што лічыць справу Іспанскай дэмакратычнай рэспублікі блізкай сабе справай, справай усяго прагрэсіўнага чалавецтва. **(Апладысменты. Воклічы: «Віват камрад Сталін!» Бурныя апладысменты. Воклічы: «Няхай жыве рэспубліканская Іспанія! Ура!»).** Наколькі-ж далёкі ад гэтай чэснай пазіцыі падтрымання іспанскай дэмакратыі ўрады тых дзяржаў, якія, аднак, не супроць таго, каб выдаваць сябе за дэмакратычныя краіны.

Або вазьміце падзеі ў Кітаі. Сваё спачуванне кітайскаму народу і адносіны да японскай агрэсіі Совецкі Саюз выразіў ужо заключэннем совецка-кітайскага пакта аб ненападзе. **(Апладысменты).** Але яшчэ невядома ні аднаго кроку, які-б зрабілі іншыя дзяржавы для процідзеяння нечуванай агрэсіі супроць кітайскага народу. І тут Совецкі Саюз выдзяляецца з хора дзяржаў сваёй асобай пазіцыяй,

сваімі чэснымі адносінамі і шчырымі сімпатыямі да народу, які падвергся замежнай агрэсіі. **(Апладысменты).**

Міжнародная палітыка Совецкага Саюза была нязменнай за ўсе гэтыя годы. Больш вернага і паслядоўнага прыхільніка міру ніхто не ўкажа. Будзе правільна, калі сказаць, што ў паслядоўным правяджэнні палітыкі міру і ў імкненні да ўмацавання мірных міжнародных адносін знаходзіць сваё выражэнне ўпэўненасць нашай краіны ў сваіх сілах. **(Апладысменты).** У нас ідзе няўхільны рост народнай гаспадаркі, няўхільны ўздым культурнага будаўніцтва і ў нас няма ніякай патрэбы ў знешніх авантурах. Няхай гэтым займаюцца іншыя, калі ўжо ў іх так гарыць пад нагамі. **(Смех, апладысменты).** Але не ўтаю, мы клапоцімся аб Чырвонай Арміі і яе магутнасці **(бурныя апладысменты)** і не забываем аб магчымасці авантур, асабліва з боку фашыстаў.

Але самае важнае, у чым сказваецца зараз міжнароднае значэнне СССР, гэта асобы палітычны ўплыў Совецкага Саюза на розумы і настроі працоўных іншых краін.

Калі ранейшыя рэвалюцыі параджалі ў працоўных расчараванне ў рэвалюцыйнай барацьбе, параджалі нявер'е ў свае сілы, то наша рэвалюцыя і яе слаўнае дваццацігоддзе маюць іншы, прама адваротны ўплыў. Цяпер ужо не трэба даказваць, што працоўныя могуць абыйсціся без капіталістаў і памешчыкаў, што ўлада працоўных— самая вялікая сіла ў наш час. **(Апладысменты).** Тыя, хто сумняваўся ў гэтым, могуць цяпер сваімі рукамі памацаць новы лад і яго завяванні пад уладай советаў. Знойдзена жыццёвая форма ўлады працоўных, раскрыт і яе социялістычны змест. Многа зрабілі буржуазныя рэвалюцыі для таго, каб падарваць давер'е ў свае сілы ў працоўных. Але, запытаем мы, хіба мала зрабіла Кастрычніцкая рэвалюцыя і наш совецкі лад для таго, каб разбіць гэта недавер'е і ўзняць дух працоўных ва ўсім свеце?

Магло часамі здавацца, што ў працоўных мала сіл, што гэтых сіл не хопіць для таго, каб вырвацца з палону капіталізма. Буржуазія ўсё зрабіла для таго, каб прывіць такога роду забабоны, каб прывіць гэта нявер'е ў свае сілы і для гэтага набрала сабе ва ўслужэнне ўсякага роду «соцыялістаў» з фальшыва-соцыялістычным білетам у кішэні. Між тым справа, вядома, не ў недахопе сіл у працоўных. Справа толькі ў недахопе арганізаванасці мас, а галоўнае— у недахопе класавай свядомасці.

Совецкі Саюз з яго вялікімі соцыялістычнымі заваяваннямі б'е па ўсіх гэтых забабонах, унушаючы веру ў свае сілы рабочым і сялянскім масам. Не будзем займацца прароцтвамі, а напомнім толькі адзін факт. Ці многа было людзей у нашай краіне, упэўненых у пераможе Кастрычніка, хоць-бы ўсяго за некалькі месяцаў да кастрычніцкага паўстання? Не так ужо многа. Становішча з таго часу надта змянілася. Няма чаго і гаварыць аб тым, што перамога соцыялізма

ў СССР падрывае карэнні недавер'я ў свае сілы сярод працоўных усяго свету. Яна ва многіх адносінах аблягчае становішча працоўных, якія мараць аб вызваленні ад капіталістычнага прыгнёту. Нельга сумнявацца, што гэта мысль быстра спее сярод працоўных многіх краін. Недавер'е працоўных да сваіх сіл будзе цяпер знікаць усё быстрэй і быстрэй. Успомнім-жа, як Ленін вучыў нас яшчэ ў перадкастрычніцкія дні, што «самае галоўнае ўнушыць прыгнечаным і працоўным давер'е ў свае сілы».

На вопыце двух дзесяцігоддзяў Кастрычніцкай рэволюцыі мільёны рабочых і сялян навучыліся многаму новаму, пачалі па-іншаму адносіцца да сваіх сіл, пачалі расставацца з забабонамі недавер'я ў магчымасць сваёй перамогі—у гэтым галоўнае, і сапраўды **міжнароднае,** значэнне нашай перамогі.

## *II. Спаборніцтва з капіталізмам*

Каб зразумець поспехі соцыялізма ў нашай краіне, трэба параўнаць Совецкі Саюз нашых дзён з дарэволюцыйнай Расіяй. Чым была наша краіна і чым яна стала?

У дарэволюцыйнай Расіі ва ўладзе стаялі капіталісты і памешчыкі на чале з царом, якога ў народзе звалі «першым памешчыкам Расіі». Расія была адсталай краінай, пераважна земляробчай. Прамысловасць была развіта слаба і ва многім адставала ад прамысловасці іншых дзяржаў. Ленін сказаў аб тагочаснай Расіі, што яна была «неймаверна, нябачана адсталай краінай, жабрацкай і поўдзікай, абсталяванай сучаснымі прыладамі вытворчасці ў чатыры разы горш Англіі, у пяць разоў горш Германіі, у дзесяць разоў горш Амерыкі». Асабліва адставала цяжкая прамысловасць, якая дае такую патрэбную прадукцыю, як вугаль, нафту, руду, жалеза, машыны, хімічныя прадукты. Багацейшыя нетры зямлі распрацоўваліся дрэнна. І пры ўсім гэтым у буйнейшых галінах прамысловасці галоўнымі гаспадарамі былі не рускія, а замежныя капіталісты. Абсталяванне для сваіх фабрык і заводаў у большасці выпадкаў закуплялася за граніцай. Ва ўсім сказвалася прамысловая адсталасць краіны.

У вёсцы поўнасцю панавалі памешчыкі і кулакі,ураднікі і земскія начальнікі. Гаворачы словамі Леніна, мы мелі наступнае:

«Каля 70 мільёнаў дзесяцін зямлі ў 30.000 буйнейшых памешчыкаў і прыблізна столькі-ж у 10 мільёнаў сялянскіх двароў—такі асноўны фон карціны».

Некалькі мільёнаў сялян аставалася зусім без зямлі і без пасеву. Большасць сялян пакутвала ад малазямелля. Дзве трэці вёскі складаліся з галоднай беднаты. Пераважная маса беднаты і сераднякоў апрацоўвала кавалкі сваёй і арандаванай у памешчыка зямлі старадзедаўскімі спосабамі пры дапамозе сахі. Ва многіх месцах у вёсцы была распаўсюджана паншчынная сістэма, г. зн. апрацоўка памешчыцкай зямлі сялянамі іх-жа мізэрным інвентаром.

Кастрычніцкая рэвалюцыя адбылася на чацверты год імперыялістычнай вайны, якая разарыла народную гаспадарку і давяла цяжар становішча народных мас да крайнасці. Да гэтага неўзабаве дабавіліся новыя няшчасці, бо памешчыкі і капіталісты, пры падтрыманні замежных інтэрвентаў, навязалі нам працяглую грамадзянскую вайну, якая таксама адабрала тры з лішнім гады. Грамадзянская вайна патрабавала ад нас велізарных афяр. К канцу грамадзянскай вайны занялад прамысловасці, чыгунак і сельскай гаспадаркі дайшоў да апошняй мяжы. Сельская гаспадарка давала якіх-небудзь дзве трэці даваеннай прадукцыі. Прамысловасць упала яшчэ ніжэй і давала ў 1920 годзе менш адной шостай ад даваеннай прадукцыі.

Пры такой разрусе савецкая ўлада прыступіла да аднаўлення народнай гаспадаркі, да ўздыму сельскай гаспадаркі і прамысловасці, транспарту і гандлю. Здавалася, патрэбны будуць доўгія гады. Ворагі большэвікоў злараднічалі. А што нарэшце вышла? Вышла так, што працоўныя нашай краіны пераможна справіліся з гэтай задачай у кароткі тэрмін.

Калі прадукцыя ўсёй буйнай прамысловасці (у цэнах 1926—27 г.) складала ў 1913 г. 11 мільярдаў рублёў, а ў 1920 годзе скацілася да 1,7 мільярда рублёў, то ў бягучым 1937 годзе яна дасягне звыш 90 мільярдаў рублёў. Гэта значыць, што супроць даваеннага ўзроўню прамысловая прадукцыя павялічылася ўжо больш чым у 8 раз. Дадайце да гэтага яшчэ адно—указанага даваеннага ўзроўню прамысловай прадукцыі мы дасягнулі толькі ў 1926 годзе. Такім чынам, павелічэнне прамысловай прадукцыі больш чым у восем раз супроць даваеннага ўзроўню адбылося толькі за апошнія 11 год. Ва ўсіх галінах прамысловасці цяпер разгорнута работа поўным ходам. Ва многіх галінах праведзена карэнная рэканструкцыя на аснове сучаснай перадавой тэхнікі. Рад буйнейшых прамысловых галін створан занава: па машынабудаўніцтву, хіміі, металургіі і т. д. Прамысловасць дарэвалюцыйнай Расіі стаяла на пятым месцы сярод іншых краін, на чацвертым—у Еўропе. Цяпер толькі Злучаныя Штаты Амерыкі па валовай прадукцыі прамысловасці стаяць наперадзе СССР. Прамысловасць Савецкага Саюза вышла на першае месца ў Еўропе. **(Апладысменты).**

У бытавых умовах рабочых адбылася крутая перамена. Яшчэ дзесяць год таму назад мы налічвалі паўтара мільёна беспрацоўных. Але вось ужо некалькі год, як у нас няма беспрацоўя, няма беспрацоўных. І гэта ў той час, калі ў Злучаных Штатах Амерыкі 9—10 мільёнаў беспрацоўных, у Германіі больш 3 мільёнаў беспрацоўных, у Англіі—2 мільёны беспрацоўных. К дзесяцігоддзю Кастрычніцкай рэвалюцыі савецкая ўлада абвясціла пераход прамысловых рабочых на сямігадзінны рабочы дзень, і гэта рашэнне было праведзена ў жыццё, не гаворачы ўжо аб тым, што на падземных і некаторых іншых цяжкіх работах у нас заўсёды быў шасцігадзінны рабочы дзень. Ні ў

адной краіне рабочыя не могуць пры капіталізме марыць аб такім кароткім рабочым дні. Колькасць занятых у прамысловасці рабочых і іх заработная плата ў нашай краіне няўхільна расце. Яшчэ ў 1928 годзе агульны фонд заработнай платы складаў крыху больш 8 мільярдаў рублёў, а ў бягучым 1937 годзе ён складзе звыш 80 мільярдаў рублёў, г. зн. павялічыўся прыкладна ў 10 раз. **(Апладысменты).**

Вы ведаеце аб тым, што ў сувязі з дваццатай гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі апублікован дэкрэт урада аб павышэнні заработнай платы нізкааплачваемых рабочых, для чаго спецыяльна асігнавана 100 мільёнаў рублёў на апошнія 2 месяцы гэтага года і 600 мільёнаў рублёў на 1938 год. **(Апладысменты).**

Тым часам, ва ўсіх краінах капіталізма: і ў Германіі, і ў Італіі, і ў Японіі, і ў Злучаных Штатах, і ў Англіі за апошнія гады адбылося не павелічэнне, а зніжэнне заработнай платы рабочых.

Усё гэта красамоўна гаворыць аб тым, што поспехі росту прамысловасці Совецкага Саюза, як і іншыя поспехі соцыялізма, вядуць да карэннага паляпшэння становішча рабочых мас.

У нашай сельскай гаспадарцы адбылася сапраўдная рэволюцыя ў тэхніцы і ў арганізацыі справы. За апошнія некалькі год сельская гаспадарка перабудавалася, як буйная соцыялістычная гаспадарка, на аснове калгасаў і соўгасаў. Канчаткова перамог калгасны лад. Машынна-трактарныя станцыі абслугоўваюць сваімі машынамі ўсе калгасы, за малым выключэннем. Колькасць трактароў у калгаснай і соўгаснай гаспадарцы дасягнула 450 тысяч, а магутнасць іх складае цяпер больш 8 мільёнаў конскіх сіл. Камбайнаў на палях ужо звыш 120 тысяч. Акрамя таго, да 120 тысяч грузавых аўтамабіляў працуюць у калгасах і соўгасах.

Звыш тых зямель, якія раней знаходзіліся ў руках сялян, совецкая ўлада перадала сялянам больш 150 мільёнаў гектараў былых памешчыцкіх, казённых і манастырскіх зямель. Расце ўраджайнасць калгасных і соўгасных палёў. У гэтым годзе мы сабралі каля 7 мільярдаў пудоў зярна **(апладысменты),** чаго яшчэ наша краіна ніколі не ведала. Значна ўзнялася ўраджайнасць бавоўны і буракоў. Па ўсяму сельскагаспадарчаму фронту ідзе барацьба за павышэнне ўраджайнасці, за павелічэнне прадукцыйнасці сельскагаспадарчай працы.

У дарэволюцыйнай Расіі большасць сялянства складалася з галоднай беднаты. Яшчэ 10 год таму назад мы лічылі, што не менш адной трэці вёскі складае бедната. Цяпер ужо ў нас няма больш беднаты ў вёсцы. Беднякі разам з усёй працоўнай вёскай будуюць у калгасах новае, сапраўды заможнае і сапраўды культурнае жыццё. **(Апладысменты).**

Клопаты совецкай улады аб калгасным сялянстве ў гэтым годзе выразіліся ў радзе новых спецыяльных мер. Не гаворачы ўжо аб нядаўна апублікаваных ільготах для калгаснікаў па здачы малака дзяр-

жаве, у гэтым годзе моцна паніжаны нормы здачы дзяржаве па зерпапастаўках і па натураплаце работы МТС. Гэта зніжэнне норм дасягае звыш 20 проц. супроць мінулага года. Спісаны таксама ссуды па хлебу, аказаныя дзяржавай калгасам у мінулыя гады. Усе гэтыя ільготы па зярну ў адным толькі гэтым годзе складаюць каля 600 мільёнаў пудоў, якія асталіся цяпер у саміх калгасаў і калгаснікаў. Нешта мы не чулі, каб у капіталістычных краінах праяўляліся такія-ж клопаты аб добрабыце сялянства.

Няхай-жа сяляне і рабочыя параўноўваюць, на чыім баку праўда ў спаборніцтве, якое ідзе паміж соцыялізмам і капіталізмам. Няхай рабочыя і сяляне робяць з гэтага свае вывады. Мабыць, гэтыя вывады будуць не ў карысць капіталізма, але затое ў карысць нашага ладу. **(Апладысменты).**

Агульнае выражэнне гаспадарчага росту Совецкага Саюза мы бачым у росце народнага даходу краіны. Вядома, што ў царскай Расіі дзевяць дзесятых насельніцтва складалася з маламаемаснай і немаемаснай масы, у рукі якой паступала прыкладна адна чвэрць народнага даходу. Інакш кажучы, дзесятая частка насельніцтва, якая складалася з багатых людзей, заграбала ў свае кішэні астатнія тры чвэрці народнага даходу. З таго часу становішча крута змянілася. Цяпер увесь народны даход паступае ў рукі працоўных, прычым 99 процантаў народнага даходу паступае ў рукі рабочых, служачых і сялян, занятых у соцыялістычнай гаспадарцы, і толькі адна сотая даходаў прыпадае на долю працоўных з аднаасобнікаў і некааператаваных саматужнікаў. У параўнанні з даваенным часам агульны размер народнага даходу павялічыўся ў гэтым годзе ў пяць раз. Такавы факты, аб якіх трэба ведаць.

Некалькі слоў аб культурным росце нашай краіны.

Вось найбольш важныя лічбы. Агульны лік навучаючыхся ва ўсіх навучальных установах з 8 мільёнаў у 1914 годзе ўзрос да 38 мільёнаў у мінулым годзе. Павелічэнне, такім чынам, у 4,7 раза. У такіх рэспубліках, як Узбекская, Таджыкская, Туркменская, Кіргізская, колькасць навучаючыхся ўзрасла ў дзесяткі раз. Пачатковай школай цяпер ахоплены ўсе дзеці. Колькасць навучаючыхся ў сярэдніх школах узрасла ў 18 раз у параўнанні з дарэволюцыйным часам. Колькасць навучаючыхся ў вышэйшых навучальных установах узрасла амаль у пяць раз. Цяпер у нашых вышэйшых навучальных установах навучаецца 540 тысяч студэнтаў. Шырока разгарнуліся агульнаасветныя школы дарослых, дзе вучыцца каля 9 мільёнаў чалавек. Звыш указаных 38 мільёнаў навучаючыхся на розных спецыяльных курсах для рабочых і калгаснікаў навучалася 6,3 мільёна чалавек і ў дашкольных установах праходзіла падрыхтоўчае навучанне 4,3 мільёна дзяцей.

Колькасць газет, выпуск кніг і іх тыражы ўзраслі ва многа раз. Асабліва быстра расце тыраж газет і выданне кніг на нацыянальных

мовах. Пры совецкай уладзе пачаўся сапраўдны росквіт нацыянальных культур, якія знаходзіліся раней у цяжкім, забітым становішчы. Аб велізарным уздыме культурнага будаўніцтва гаворыць рост нашых выдаткаў на асвету. За апошнія 10 год выдаткі на асвету, узятыя ў цэлым, павялічыліся ў 33 разы. **(Апладысменты).** Яны дасягаюць у бягучым 1937 годзе звыш 18 мільярдаў рублёў.

Няхай пацягаюцца з гэтымі фактамі буржуазныя краіны. **(Апладысменты).** Ні адна з гэтых краін не можа процістаставіць гэтым лічбам колькі-небудзь прыметнага паляпшэння справы ў галіне культуры, затое знойдзецца нямала такіх, якія за апошнія 10—20 год пайшлі не ўперад, а назад у сваім культурным будаўніцтве.

На чым заснаваны гэтыя поспехі совецкага ладу?

На тым-жа, на чым заснаваны і ўсе іншыя поспехі Кастрычніцкай рэволюцыі. Яны заснаваны, перш за ўсё, на правільнай палітыцы партыі большэвікоў **(апладысменты),** кіруючай усім соцыялістычным будаўніцтвам. Ва ўсіх поспехах соцыялізма, ва ўсіх нашых перамогах мы бачым усёперамагаючую сілу ленінізма. **(Апладысменты).** Мы перамаглі вернасцю ленінізму! **(Апладысменты).** Гэтаму вучыў і вучыць нас таварыш Сталін. **(Бурныя, працяглыя апладысменты).**

Партыя Леніна—Сталіна вяла нас ад перамогі да перамогі: у дні Кастрычніцкага паўстання; у перыяд, калі трэба было вырвацца з агня імперыялістычнай бойні; у гераічныя гады грамадзянскай вайны і ўзброенага адпору інтэрвентам; пры пераходзе к нэпу, калі мы пераходзілі, так сказаць, на новыя рэйкі; пры разгортванні соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны; пры пераходзе сялянства на шлях калектывізацыі; у гады канчатковай перамогі соцыялізма ў нашай краіне. Мы прайшлі праз вялікія цяжкасці і перанеслі не мала лішэнняў. Мы павінны былі адбіваць пазіцыю за пазіцыяй, разлічваючы толькі на свае ўласныя сілы. Пуцяводнай зоркай ва ўсёй нашай палітыцы была ленінская ідэя ўмацавання пролетарскай дыктатуры на аснове саюза з сялянствам. Мы заўсёды памяталі вялікі завет Леніна ў 1921 годзе:

> «10—20 год правільных суадносін з сялянствам і забяспечана перамога ў сусветным маштабе (нават пры зацяжцы пролетарскіх рэволюцый, якія растуць), інакш 20—40 год пакут белагвардзейскага тэрора».

Мы таму з такім поспехам праводзілі ў жыццё гэтыя ленінскія заветы, што ўсёй нашай справай, усёй нашай работай кіраваў дастойны прадаўжальнік справы Леніна, якому належыць заслуга развіцця ленінскіх ідэй аб соцыялістычнай рэволюцыі—наш Сталін. **(Бурныя, працяглыя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Усе ўстаюць. Воклічы: «Няхай жыве таварыш Сталін». «Ура»).**

Поспехі нашай справы мы адваёўвалі ў баях з ворагамі рэволюцыі, з ворагамі ленінізма.

Прабраўшыяся ў партыю чужакі і ўсякія буржуазныя перараджэнцы, правакатары і шпіёны, накшталт Троцкага, Рыкава, Бухарына, вялі лютыя атакі для таго, каб збіць нас з правільнай лініі, каб прывесці партыю да капітуляцыі перад цяжкасцямі першай пролетарскай рэволюцыі. Такімі былі не толькі трацкісты, але і ўсе гэтыя правыя, левакі, зіноўеўцы, бухарынцы і іншыя антыленінскія групкі.

Перш чым выгнаць іх мятлой з большэвіцкіх радоў, нам прышлося на працягу рад год весці велізарную растлумачальную работу ў партыі і ў рабочым класе, прымаць нямала мер для аховы партыйнага адзінства і ачысткі нашых радоў ад усіх гэтых агентаў буржуазіі. Рэволюцыя паказала, што ў партыю залезла нямала такіх чужакоў, а сёй-той з іх быў і прама заслан у нашы арганізацыі яшчэ царскай ахранкай, а таксама замежнымі разведкамі.

Перад намі стаяла такая галоўная задача: захаваць саюз рабочага класа з сялянствам, забяспечыўшы пры гэтым такія тэмпы ўздыму соцыялістычнай індустрыі, якая з'яўляецца вядучай сілай усяго соцыялістычнага будаўніцтва, каб у найкарацейшы тэрмін вывесці краіну з глыбокай адсталасці, з адсталасці эканамічнай, з адсталасці тэхнічнай, з адсталасці культурнай і ваеннай. Гэта прама дыктавала нам унутраная і ў асаблівасці міжнародная абстаноўка. Сёння, у дваццатую гадавіну Кастрычніцкай рэволюцыі, мы можам цвёрда, без пахвальбы, сказаць: у асноўным гэту задачу мы паспяхова вырашылі. **(Апладысменты).** У праціўным выпадку мы не мелі-б цяпер магчымасці сказаць, што мы ўжо справіліся з устаноўленым у свой час планам тэхнічнай рэканструкцыі ў рашаючых галінах народнай гаспадаркі. У нас не было-б і перамогі калгаснага ладу, якая прадстаўляе сабою самае буйнае заваяванне другога дзесяцігоддзя нашай рэволюцыі.

Гэта не значыць, аднак, што пытанне аб спаборніцтве з капіталізмам для нас ужо вырашана. Гэта пытанне не толькі не вырашана,— яго і нельга поўнасцю вырашыць без перамогі соцыялізма ў іншых краінах.

Марксізм вучыць нас таму, што пасля звяржэння эксплаататараў класавая барацьба не толькі не аслабляецца, а, наадварот, набывае значна больш вострыя формы. Тым больш гэта адносіцца да першай дзяржавы, якая будуе соцыялізм у варожым капіталістычным акружэнні. Здаецца, не цяжка зразумець, што варожыя соцыялізму сілы ў гэтым выпадку жывяцца ўсім гэтым знешнім акружэннем і кожнай капіталістычнай краінай у паасобку.

Не толькі **мы** параўноўваем сваё развіццё з становішчам у краінах капіталізма. Гэта робяць і нашы ворагі з лагера імперыялізма. З гэтага параўнання мы робім **свае** практычныя вывады, а яны робяць іншыя вывады, процілеглыя. Адно ясна, капіталізм сам не складзе зброі перад поспехамі соцыялізма ў нашай краіне. Гэтыя поспехі вы-

клікаюць у лагеры буржуазіі шалёную злобу, якая пераходзіць у злобу роспачы. Мы павінны з гэтым лічыцца, як з фактам.

Губляючы ўсё новыя і новыя пазіцыі ў адкрытым, так сказаць, у мірным спаборніцтве з пераможным соцыялізмам, буржуазія, і асабліва яе фашысцкія грамілы, пускаюцца на ўсе і ўсякія падкопы, на ўсе і ўсякія подласці з-за вугла. Гэта наглядна відаць на прыкладзе трацкізма, які ператварыўся ўжо даўно ў шпіёна-трацкізм, у араву шпіёнаў, шкоднікаў, правакатараў і тэрарыстаў. Таварыш Сталін бліскуча раскрыў сутнасць цяперашняга трацкізма. Гэта не палітычная плынь, якая павінна мець сваю праграму і не хаваць свайго твару перад масамі. Шпіёна-трацкізм—гэта банда разведчыкаў, забойцаў і шкоднікаў, з якой трэба паступаць так, як паступаюць са злейшымі ворагамі народу. **(Апладысменты).** Усёй гэтай дрэні, колькі-б яе ні наймалі на службу замежныя разведкі, мы, вядома, прыціснем хвост...

У гэтым мы бачым адну з умоў, ад якіх залежыць спакойная работа і поспех нашага спаборніцтва з капіталізмам на галоўных фронтах.

Сёння галоўнае спаборніцтва з капіталізмам ідзе ў гаспадарчай галіне і таму галоўным крытэрыем (мерылам) у гэтым спаборніцтве з'яўляецца прадукцыйнасць працы. Мы і тут памятаем ленінскае ўказанне, што «прадукцыйнасць працы, гэта, урэшце, самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу».

Мы не можам яшчэ сказаць, што ў гэтай справе мы маем дастатковыя поспехі, хоць у нас ёсць заводы і фабрыкі, якія ўзорна спраўляюцца са сваёй справай. У цэлым радзе важных галін прамысловасці мы яшчэ адстаем ад перадавых па тэхніцы капіталістычных краін, асабліва ад Амерыкі. Мы яшчэ ва многім не здолелі скарыстаць вопыту стаханаўцаў для таго, каб па-большэвіцку падняць на ногі заводы і фабрыкі, цэлыя галіны прамысловасці.

Але нельга прайсці міма першых істотных поспехаў у гэтай галіне, асабліва, калі мы параўноўваем Совецкі Саюз з іншымі краінамі. Вось ужо 7—8 год буйнейшыя капіталістычныя краіны, такія, як Амерыка, Германія, Англія, топчуцца амаль на адным месцы па размерах гадовай выпрацоўкі на аднаго рабочага. Тым часам за гэты-ж перыяд, г. зн. з 1929 года, прадукцыйнасць працы рабочага ў нашай прамысловасці павялічылася больш, чым у два разы.

За адзін толькі 1936 год—першы год пасля пачатку стаханаўскага руху—прадукцыйнасць працы ў нашай буйнай прамысловасці павялічылася на 21 процант. У нашай краіне, дзе адсутнічаюць крызісы, няма перашкод да пастаяннага росту прадукцыйнасці працы. Наадварот, толькі цяпер мы можам сказаць, што кадры рабочых на заводах, збудаваных у апошнія гады, ужо прайшлі вядомы тэрмін тэхнічнай вучобы і цяпер могуць даць сапраўдны ўздым прадукцыйнасці працы. Гэтыя чаканні цалкам апраўдаюцца, калі нашы гаспадарчыя, інжынерна-тэхнічныя і профсаюзныя кадры па-сапраўднаму зразу-

меюць свае задачы, зламаюць бюракратычныя перашкоды, якія тармозяць справу, і возьмуцца ўсур'ёз за арганізацыю працы стаханаўцаў.

Вялікі магчымасці і нашай сельскай гаспадаркі. Цяпер у калгасах нямала людзей, добра асвоіўшых не толькі трактар, але і камбайн. Даволі сказаць, што яшчэ чатыры гады таму назад сярэднегадовая выпрацоўка камбайна ў МТС была ўсяго 70 гектараў, тады як ужо ў мінулым годзе яна дасягнула 350 гектараў, г. зн. за 3 гады павялічылася ў пяць раз.

Зробім з усяго гэтага практычныя вывады і, перш за ўсё, прызнаем, што ў нас па-соцыялістычнаму працуе толькі той завод, які дае **добрай** прадукцыі не менш, а **больш,** чым такі-ж завод за межамі СССР. Нашы кадры ўжо зрабілі вялікія поспехі ў аўладанні тэхнікай. Гэтыя поспехі трэба ўвасобіць на фабрыках і заводах у высокую прадукцыйнасць працы, дастойную соцыялістычнага грамадства. Тады будзе вырашан вынік барацьбы на галоўным фронце спаборніцтва з капіталізмам.

Па-большэвіцку разгарнуць барацьбу **за высокую прадукцыйнасць працы** ў прамысловасці, на транспарце і ў сельскай гаспадарцы—такава рашаючая задача.

### *III. Аб перспектывах*

З самага пачатку Кастрычніцкай рэвалюцыі не толькі ворагі, але і шматлікія фальшывыя «прыяцелі» прарочылі ёй блізкую пагібель. Асабліва часта пускаўся ў ход такі довад, што пралетарская рэвалюцыя ў Расіі нясвоечасова, што соцыялізм не можа перамагчы ў адной краіне. Гэтым жалкім буржуазным забабонам Ленін проціпаставіў навуковы, марксісцкі, погляд на соцыялістычную рэвалюцыю, з улікам асаблівасцей імперыялізма. Яшчэ ў 1916 годзе Ленін, у артыкуле «Ваенная праграма пралетарскай рэвалюцыі», пісаў:

> «Развіццё капіталізма адбываецца ў вышэйшай ступені нераўнамерна ў розных краінах. Інакш і не можа быць пры таварнай вытворчасці. Адсюль няўхільны вывад: соцыялізм не можа перамагчы адначасова **ва ўсіх** краінах. Ён пераможа першапачаткова ў адной або некалькіх краінах, а астатнія на працягу некаторага часу астануцца буржуазнымі або дабуржуазнымі».

Гэта навукова даказанае Леніным тэарэтычнае палажэнне поўнасцю пацверджана і практычна, пацверджана мільёнамі слаўных будаўнікоў соцыялізма ў нашай краіне.

Мы жывем у эпоху агульнага крызісу капіталізма, калі супярэчнасці ў капіталістычным лагеры ўжо дасягнулі крайняй астраты. Абвастрэннем гэтых супярэчнасцей была выклікана першая сусветная імперыялістычная вайна. Кастрычніцкая рэвалюцыя знаменавала сабой пачатак разбурэння сусветнага капіталізма, інакш кажучы, пачатак міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі.

Ітак, сусветная рэволюцыя ўжо пачалася. Але яна пачалася не шляхам крушэння адразу ўсяго ланцуга, а шляхам распаду паасобных звенняў капіталізма. Першым такім звяном аказалася буржуазна-памешчыцкая Расія, на змену якой прышла соцыялістычная дзяржава.

З гэтага часу пролетарская рэволюцыя, як самая перадавая з'ява нашага часу, стала апорай усіх сапраўды прагрэсіўных рухаў народных мас, хоць-бы і не чыста комуністычных. У ёй знаходзіць цяпер апору і барацьба за дэмакратычныя правы працоўных супроць фашыстаў і барацьба за нацыянальную незалежнасць слабых краін супроць імперыялістычных агрэсараў. Сярод капіталістычных краін ужо няма такіх, якія з'яўляліся-б надзейнай апорай прагрэса. Прагрэсіўнае робіцца ўсё больш чуждым спарахнеламу капіталізму. Віднейшае месца ў абароне інтарэсаў усяго прагрэсіўнага, у абароне інтарэсаў культуры і нацыянальнай свабоды належыць цяпер першай соцыялістычнай рэволюцыі. **(Бурныя апладысменты).** Усё прагрэсіўнае, усё чэсна-дэмакратычнае цягнецца ў гэты бок, канчаткова губляючы надзеі на капіталізм. Так, ходам гістарычнага развіцця капіталізм ідзе да свайго канца, уступаючы месца нарастаючай соцыялістычнай рэволюцыі. **(Бурныя апладысменты).**

У нашай краіне соцыялізм перамог поўнасцю ў **палітычнай** галіне яшчэ ў Кастрычніцкія дні 1917 года. Аб канчатковай перамозе соцыялізма **ў эканоміцы** краіны мы можам гаварыць з часу павароту сялянскіх мас на шлях калгасаў, г. зн. ужо 7—8 год. Аб канчатковай перамозе соцыялізма ў галіне **культуры** гаварыць яшчэ рана. З гэтым звязан той факт, што ў нас яшчэ так многа работы па зжыванню перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей. Іх можна паспяхова зжываць толькі шырокім уздымам соцыялістычнай культуры. Але затое кожны крок па шляху сапраўды соцыялістычнай культуры не толькі дае свае неадкладныя рэзультаты, але і стварае прадпасылкі перарастання соцыялізма ў комунізм.

Разбіраючы значэнне стаханаўскага руху, таварыш Сталін гаварыў аб тым, што «ён падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма к комунізму». Таварыш Сталін так развіваў гэту мысль у той-жа прамове:

> «Хіба не ясна, што стаханаўцы з'яўляюцца наватарамі ў нашай прамысловасці, што стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён зняшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма к комунізму і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай?»

Таму задача «уздыму культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы», разам з

уздымам культурнасці ўсёй масы працоўных,—тая асноўная задача, ад вырашэння якой залежаць галоўныя нашы поспехі.

Комунізм пачаў пранікаць у наша жыццё з часу перамогі совецкай улады. З таго часу прайшло 20 год соцыялістычнай перадзелкі краіны. Да чаго-ж мы прышлі? Які агульны вынік?

Мы стварылі соцыялістычнае грамадства, у якім няма месца эксплаататарам, няма месца эксплаатацыі. Створана грамадства новага, вышэйшага, тыпу. У адносінах паміж двума класамі нашага грамадства, паміж рабочымі і сялянамі-калгаснікамі не толькі няма варожасці і непрымірымых супярэчнасцей, але, наадварот, адбываецца працэс зближэння па ўмовах жыцця, па культурнаму развіццю, па іх імкненнях да комунізма.

Наш народ жыве па-новаму, бо соцыялізм пранік ва ўсе поры нашага ладу. Гэта новае жыццё акрыляе працоўных, нараджае ў іх новыя і новыя сілы. З моладзі, з нашых дзяцей, расце тое пакаленне, якое з поспехам справіцца з гіганцкімі і ўсё растучымі задачамі соцыялістычнага грамадства.

Мы не можам сказаць, што ўсё народнае ўжо стала соцыялістычным. Але на нашых вачах сапраўды соцыялістычнае становіцца народным, блізкім народным масам. З другога боку, кожны можа бачыць, што працоўныя масы нашай краіны ўспрымаюць як антынароднае, як чуждае народу ўсё антыкомуністычнае, ці то будзе ў практычных справах ці ў навукова-творчай галіне. У нас стала прывычным, што ворагаў комуністычнай партыі і совецкай улады лічаць ворагамі народу. Палітычная кампанія па выбарах у Вярхоўны Совет, якая пачалася нядаўна, ператварылася ў справу новага магутнага згуртавання працоўных вакол комуністычнай партыі і совецкай улады. **(Апладысменты).**

Што ўсё гэта азначае? Гэта азначае, што ў нашай краіне стварылася нябачанае раней унутранае **маральнае і палітычнае адзінства народу.** Маральнае і палітычнае адзінства соцыялістычнага грамадства. **(Апладысменты).**

Такога адзінства народу не ведала і не ведае ні адна капіталістычная краіна. Капіталістычнае грамадства раздзіраецца ўнутранымі супярэчнасцямі. Там пануючая меншасць, эксплаататарская вярхушка заўсёды аддзелена і процістаіць народу, процістаіць эксплаатуемым масам. Буржуазія звычайна шырока выкарыстоўвае знешнюю небяспеку для замацавання свайго ладу. Але і гэты кафтан трашчыць у яе ў наш час па ўсіх швах. Ва ўсіх на вачах капіталізм коціцца ў бяздонне.

Шчасце нашай краіны ў тым, што, не спалохаўшыся цяжкасцей, яна вырвалася з капіталістычнага гніючага грамадства. І вось дваццаць год, як мы ідзем сваёй новай дарогай, ідзем к комунізму, усведамляючы, што на нашу долю выпала шчасце праклясці верны шлях да

светлага жыцця ўсяго чалавецтва. Гэта ўзнімае свядомасць мас нашай краіны і згуртоўвае працоўных.

Маральнае і палітычнае адзінства народных мас Савецкага Саюза выкавана ў іспытах геранчнай барацьбы з буржуазна-памешчыцкімі класамі і замежнымі інтэрвентамі. Яно ўмацавалася на аснове саюза рабочых і сялян у справе ўздыму народнай гаспадаркі. Але толькі пасля стварэння сацыялістычнага грамадства, у якім закрыты ўсе дзверы для эксплаататараў і для ўсякай эксплаатацыі чалавека чалавекам, пачало сказвацца тое новае маральна-палітычнае адзінства народу, якое прадстаўляе найвялікшую сілу. Такое маральнае і палітычнае адзінства, прасякнутае глыбокім інтэрнацыяналізмам, канчаткова згуртуе ў адно цэлае народы і народнасці Савецкага Саюза. У ім будуць бачыць правобраз сваёй будучыні і народы іншых краін.

Маральна-палітычнае адзінства народу ў нашай краіне мае і сваё жывое ўвасабленне. У нас ёсць імя, якое стала сімвалам перамог сацыялізма. Гэта імя разам з тым сімвал маральнага і палітычнага адзінства савецкага народу. Вы ведаеце, што гэта імя—Сталін! **(Апладысменты. Усе ўстаюць. Воклічы: «Ура таварышу Сталіну!»).**

Гаворачы аб нашых перспектывах, мы маем на ўвазе, перш за ўсё, мірнае развіццё нашай краіны. Ну, а калі мір будзе парушан, калі сабака сарвецца з ланцуга і кінецца на нас, на наш дом, што мы скажам на гэта? Мы адкажам: няхай вораг папрабуе паспытаць маральнае і палітычнае адзінства сацыялістычнага грамадства! **(Апладысменты).**

У гэтыя дні нашы пачуцці і мыслі лепш за ўсё выразіць простымі, зразумелымі працоўным усіх краін словамі:

Няхай жыве Кастрычніцкая рэвалюцыя!

Вышэй сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна! **(Усе ўстаюць. Бурныя апладысменты. Воклічы: «Ура таварышу Сталіну!»).**

---

# Палкі трыбун рэвалюцыі

Тры гады назад трацкісцка-бухарынскія найміты фашызма зладзейскі забілі таварыша Кірава. Подлыя здраднікі радзімы, агенты замежных разведак, абарвалі выдатнае жыццё лепшага з лепшых сыноў совецкага народа, вялікага, непахіснага рэвалюцыянера, любімца партыі Леніна—Сталіна, аднаго з яе папулярнейшых кіраўнікоў. Ворагі народа забілі Сергея Міронавіча Кірава таму, што ён нястомна змагаўся за шчасце працоўных мас, за росквіт нашай вялікай соцыялістычнай радзімы, за перамогу комунізма ва ўсім свеце.

Чорныя зладзеі дзейнічалі па загадзя ўзважанаму і абдуманаму плану. Даказана, што разгалінаваная сетка контррэволюцыйнай шпіёнскай трацкісцка-бухарынскай арганізацыі была расстаўлена яшчэ задоўга да гэтага гнуснага злачынства. Адшчапенцы, страціўшыя ўсякае аблічча чалавечае, у сваёй дзікай злобе супроць перамогшага соцыялізма ўбралі са свайго шляху выдатнага большэвіка, зоркага і бясстрашнага рыцара рэволюцыі, які бязлітасна граміў іх асіныя гнёзды і перашкаджаў іх злачынным справам. Фашысцкія забойцы мелі намер убраць са свайго шляху ўсіх, хто перашкаджаў ім вярнуць нашу краіну пад ярмо капітала, хто перашкаджаў закабаліць свабодны совецкі народ.

Услед за забойствам С. М. Кірава трацкісцка-бухарынская зграя, даўно прадаўшая сваю душу і цела крываваму Гестапо і іншым фашысцкім ахранкам, збіралася заліць кроўю народнай усю нашу радзіму, знішчыць яе лепшых сыноў, кінуць яе ў страшэнную мясарубку вайны. Кожная новая перамога соцыялізма нараджала ўсё большую нянавісць у агідных душонках прадажных бандытаў. Няма таго злачынства, перад якім спыніліся-б трацкісцка-бухарынскія агенты фашызма.

Кіраў быў верным другам, вучнем і саратнікам таварыша Сталіна. Ён быў адданы ўсёй душой і верны да канца вялікай справе Леніна—Сталіна, ён ніколі ні на крок не адступаў ад лініі партыі, ён усё сваё жыццё беззаветна змагаўся за трыумф яе ідэй. Кіраў—гэты выдатны сын нашага вялікага народа—прашоў жыццёвы шлях, поўны нужды і лішэнняў, шлях прафесіянальнага рэволюцыянера, які не ведае іншай мэты ў жыцці, акрамя нястомнай барацьбы за добрабыт народа, за яго шчасце. Ён страсна ненавідзеў ворагаў народа і ўмеў

наносіць ім сакрушальныя ўдары. Верны саратніка Сталіна, Кіраў вучыў партыю і працоўныя масы трымаць порах сухім супроць ворагаў соцыялізма, супроць азлобленых асколкаў разгромленых эксплаататарскіх класаў. Яму належаць выдатныя словы:

> «Скажам, навука аб супраціўленні матар'ялаў—гэта надта неабходная навука. Але мы ні на адну мінуту не павінны забываць, што мы жывем у такой абстаноўцы, калі тая навука, якая вывучае супраціўленне процістаячых нам класаў унутры краіны і за яе межамі,—гэта навука павінна займаць першае месца».

Гэтай навукай Кіраў уладаў дасканала. Ён ні на мінуту не забываў: калі вораг не здаецца—яго знішчаюць. Ён не выпускаў з рук вострай зброі класавай пільнасці. Ён бязлітасна разбіў ворагаў на фронтах грамадзянскай вайны. І ў Закаўказзі, і ў барацьбе з буржуазнымі нацыяналістамі, і ў горадзе Леніна ў сутычках з зіноўеўскай нечысцю—ён нястомна выкрываў і знішчаў ворагаў соцыялізма.

Кіраў быў сапраўдным увасабленнем веры ў масы, веры ў іх бязмежныя творчыя здольнасці. Гэтая вера акрыляла Кірава і заражала яго велізарнаю сілай. Гэтая вера не пакідала Кірава ў самыя цяжкія мінуты яго жыцця. Масы, партыйныя і беспартыйныя, добра ведалі свайго Міроныча і акружалі яго любоўю і давер'ем.

Гэта быў выдатны будаўнік новага свету, свету без эксплаатацыі і прыгнёту, свету, дастойнага чалавека. Пасля сканчэння грамадзянскай вайны Кіраў цалкам, без астатку аддаўся справе будаўніцтва соцыялізма. Пад яго кіраўніцтвам паднялася з бяздоння разрушэння і ўпэўнена пайшла па шляху росквіту жамчужына нашай краіны—нафтавая прамысловасць Азербайджана. Пад яго кіраўніцтвам налілася новымі магутнымі сокамі ленінградская прамысловасць, якая стала велізарнай кузняй эканамічнай незалежнасці нашай радзімы.

Яго погляд ясна бачыў гіганцкія перспектывы, раскрытыя перад краінай пераможшага соцыялізма. Новыя магутныя водныя артэрыі, незлічоныя багацці Кольскага поўвострава, невычэрпныя рэзервы машынабудаўнічых заводаў—усяму гэтаму Кіраў аддаваў сваю ўвагу, сваю надзвычайную працаздольнасць. І ні на мінуту ён не пакідаў бацькавых клопатаў аб самым каштоўным з усіх капіталаў свету—аб жывым чалавеку, аб масах будаўнікоў соцыялізма.

Жалкія нікчэмнасці і банкроты, выкрытыя Кіравым, спрабавалі хлуслівымі, дэмагагічнымі фразамі заглушыць грамавы голас большэвіцкай праўды. Ворагі ўбачылі свой поўны правал, і тады, палаючы нянавісцю і злобай, яны зладзейскі забілі яго з-за вугла.

Зладзейскае забойства Кірава, любімага сына партыі Леніна—Сталіна, паказала, што трацкісцка-бухарынская зграя канчаткова перайшла на фашысцкі шлях, на шлях тэрору, шпіянажу, дыверсіі і шкодніцтва. Агіднае ліцамер'е і двурушніцтва гэтых подлых людзішак служылі толькі мэтам маскіроўкі. Наша партыя і ўвесь совецкі народ зрабілі ўсе вывады з гэтай новай тактыкі ворага. Слаўная

совецкая разведка, на чале са сталінскім наркомам унутраных спраў таварышом Ежовым, у якога слова ніколі не разыходзіцца са справай, разграміла варожыя гнёзды. Подлыя злачынцы, злоўленыя з палічным, атрымалі па заслугах.

У гісторыю вялікіх баёў за соцыялізм імя Кірава ўвойдзе як імя палкага трыбуна рэволюцыі, вернага сына партыі Леніна—Сталіна, крыштальна чыстага барацьбіта за комунізм, пераможнага палкаводца мас у незабываемыя гады штурму старога свету і тварэння новага, соцыялістычнага грамадства.

Імя Кірава, святое для партыі, для ўсяго совецкага народа, кліча ўсіх працоўных да бязлітаснай расправы над усімі трацкісцка-бухарынскімі шпіёнамі, да поўнага выкаранення гэтых заклятых ворагаў соцыялізма—усіх да аднаго!

Прэзрэннай кучцы ворагаў не ўдалося і ніколі не ўдасца павярнуць назад нашу вялікую соцыялістычную радзіму. Наша рэволюцыя—адзіная ў гісторыі чалавецтва рэволюцыя, якая дала найшырэйшым масам народным не толькі свабоду (і прытым не на словах, а на справе), але і матар'яльны добрабыт, магчымасць заможнага і культурнага жыцця.

Няма ў свеце той сілы, якая магла-б зноў увергнуць нашу краіну ў кабалу да капіталістаў. Соцыялізм трыумфуе ў пераможных выніках дваццаціголдзя совецкай улады. Соцыялізм трыумфуе ў нашыя дні на вуліцах і плошчах краіны, на шматтысячных мітынгах совецкіх выбаршчыкаў. Многанацыянальны совецкі народ, адзіны і згуртаваны вакол большэвіцкай партыі і яе Сталінскага Цэнтральнага Камітэта, вакол совецкага ўрада, ідзе к выбарам у Вярхоўны Совет СССР. Як найвялікшы скарб, аберагае народ самую дэмакратычную ў свеце Сталінскую Канстытуцыю—гэты патрасаючай сілы абвінаваўчы дакумент супроць фашызма і яго подлых трацкісцка-бухарынскіх ланцужных псоў.

Вялік і непераможны народ, які нараджае такіх людзей, як Сергей Міронавіч Кіраў. Непераможна краіна, якая мае такую партыю, як ВКП(б) і яе Сталінскі Цэнтральны Камітэт.

«Правда».

# Пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі

25 лістапада 1936 года ў Маскве сабраўся Надзвычайны VIII з'езд Советаў СССР для разгляду і зацверджання новай Канстытуцыі краіны соцыялізма. У гэты дзень правадыр народаў таварыш Сталін, з чыім іменем звязаны ўсе нашы перамогі, з трыбуны з'езда на ўвесь свет правазгласіў новую Канстытуцыю СССР, у якой запісана тое, што ўжо заваявана совецкім народам. Уся краіна з вялікай радасцю слухала даклад свайго правадыра.

Таварыш Сталін з геніяльнай чоткасцю і глыбінёй асвятліў шлях, які прайшла наша краіна за 19 год барацьбы. Гэты даклад правадыра назаўсёды застанецца ў памяці працоўных мас нашай краіны і ўсяго свету, як найвялікшы гістарычны дакумент марксізма-ленінізма, непарыўна звязаны з прыняццем і зацверджаннем Асноўнага Закона жыцця народаў СССР, у якім залатымі словамі, проста і сцісла, запісан факт перамогі соцыялізма ў СССР, факт вызвалення працоўных нашай краіны ад капіталістычнага гнёту, факт правядзення сапраўднага соцыялістычнага дэмакратызма.

5 снежня Надзвычайны VIII з'езд Советаў СССР аднагалосна прыняў і зацвердзіў самую дэмакратычную ў свеце Канстытуцыю перамогшага соцыялізма, у якой адлюстраваны велізарныя соцыяльна-эканамічныя зрухі за 19 год існавання дыктатуры рабочага класа.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна за невялікі адрэзак часу непазнавальна змянілася ўся эканоміка нашай народнай гаспадаркі. Поўнасцю і беззваротна перамагла соцыялістычная сістэма. Гіганцкі вырасла соцыялістычная індустрыя, якая стварыла неабходную базу для тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. У вёсцы замест раздробленай адсталай аднаасобнай сельскай гаспадаркі створана буйная, узброеная сучаснай передавой тэхнікай, соцыялістычная сельская гаспадарка. Поўнасцю выгнаны з таваразвароту і ліквідаваны гандляры і спекулянты. Нарадзіўся новы, совецкі гандаль.

> «Гэта значыць, што эксплаатацыя чалавека чалавекам знішчана, ліквідавана, а соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці ўцверджана, як непахісная аснова нашага совецкага грамадства» **(Сталін).**

Перамога соцыялізма змяніла і класавую структуру совецкага грамадства. У нашай краіне няма больш капіталістаў, памешчыкаў, кулакоў, гандляроў і іншых эксплаататарскіх класаў. У СССР застаўся рабочы клас і клас сялян, засталася інтэлігенцыя. Паміж гэтых класаў няма супярэчнасцей. У рабочага класа і калгаснага сялянства агульныя інтарэсы—супольна, поплеч змагацца за далейшы ўздым соцыялістычнай эканомікі і культуры, за ўмацаванне абароннай

магутнасці сацыялістычнай радзімы, у якой радасна жывецца ўсім насяляючым яе народам.

Рабочы клас і калгаснае сялянства—зусім новыя класы, якіх не бачыла гісторыя чалавецтва. Таксама і наша савецкая інтэлігенцыя—зусім новая інтэлігенцыя, якая непарыўна звязала свой лёс з рабочым класам, з усімі працоўнымі масамі нашай краіны і аддае сваю працу на карысць свайго народу, на карысць сацыялізма.

Усе гэтыя сусветна-гістарычныя перамогі замацаваны Асноўным Законам нашай краіны—Сталінскай Канстытуцыяй.

У артыкуле 4 Канстытуцыі запісана:

> «Эканамічную аснову СССР складаюць сацыялістычная сістэма гаспадаркі і сацыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці, якія ўмацаваліся ў выніку ліквідацыі капіталістычнай сістэмы гаспадаркі, адмены прыватнай уласнасці на прылады і сродкі вытворчасці і знішчэння эксплаатацыі чалавека чалавекам».

Аснову Сталінскай Канстытуцыі складаюць сацыялістычныя прынцыпы. Канстытуцыя не толькі аглашае правы ўсіх грамадзян краіны Саветаў на працу, адпачынак, асвету і забяспечаную старасць, але і гарантуе гэтыя правы неабходнымі матэр'яльнымі сродкамі.

Ажыццяўленне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі забяспечыла адну з найвялікшых заваёў сацыялізма ў нашай краіне—знішчэнне нацыянальнага няроўнапраўя і гнёту для ўсіх народаў СССР.

Сталінская Канстытуцыя не толькі агласіла роўнапраўе ўсіх народаў, што насяляюць СССР, але і гарантуе яго без усякіх абмежаванняў. Працоўныя масы ўсіх нацыянальнасцей карыстаюцца аднолькавымі правамі ў гаспадарчым, культурным, грамадскім і палітычным жыцці нашай краіны.

Таварыш Сталін у сваім гістарычным дакладзе на Надзвычайным VIII з'ездзе Саветаў гаварыў, што ў нашай краіне знікла пачуццё ўзаемнага недавер'я паміж народамі ўсіх нацыянальнасцей і развілося пачуцце ўзаемнай дружбы і давер'я, брацкага супрацоўніцтва.

> «У рэзультаце мы маем цяпер многанацыянальную сацыялістычную дзяржаву, якая ўпаўне склалася і вытрымала ўсе іспыты, моцнасці якой магла-б пазайздросціць любая нацыянальная дзяржава ў любой частцы свету» **(Сталін)**.

Былыя каланіяльныя акраіны царскай Расіі ператвораны ў квітнеючыя сацыялістычныя рэспублікі, якія шчыльна звязалі свой лёс з вялікім Савецкім Саюзам і з'яўляюцца яго неадлучнаю часткай. На былых акраінах вырасла магутная сацыялістычная прамысловасць. Усё больш і больш багатыя плады дае сацыялістычная сельская гаспадарка. Усё ярчэй квітнее культура, сацыялістычная па зместу, нацыянальная па форме. Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка прынесла радасць і шчасце ўсім народам краіны Саветаў. Гэта перамога зафіксавана ў Асноўным Законе краіны сацыялізма—у Канстытуцыі СССР.

Кожны артыкул, кожнае слова Сталінскай Канстытуцыі—рэзультат барацьбы і перамог партыі большэвікоў пад мудрым кіраўніцтвам вялікага Сталіна.

Характарызуючы ў сваім дакладзе значэнне новай Канстытуцыі СССР, таварыш Сталін сказаў:

«Калі для народаў капіталістычных краін Канстытуцыя СССР будзе мець значэнне праграмы дзеянняў, то для народаў СССР яна мае значэнне выніку іх барацьбы, выніку іх перамог на фронце вызвалення чалавецтва. У рэзультаце пройдзенага шляху барацьбы і лішэнняў прыемна і радасна мець сваю Канстытуцыю, якая трактуе аб пладах нашых перамог. Прыемна і радасна ведаць, за што біліся нашы людзі і як яны дабіліся сусветна-гістарычнай перамогі. Прыемна і радасна ведаць, што кроў, багата пралітая нашымі людзьмі, не прайшла дарэмна, што яна дала свае рэзультаты».

* * *

Прайшоў толькі год з таго гістарычнага дня, калі з трыбуны Надзвычайнага VIII з'езда Советаў СССР на ўвесь свет прагучэлі мудрыя словы даклада таварыша Сталіна, з таго часу, калі з'езд Советаў аднадушна прыняў і зацвердзіў Сталінскую Канстытуцыю. За гэты год наша краіна пад геніяльным кіраўніцтвам вялікага Сталіна, ідучы пад сцягам новай Канстытуцыі, дабілася гіганцкіх перамог на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Совецкі народ, натхнёны Сталінскай Канстытуцыяй, зрабіў новы крок наперад па ўмацаванню эканамічнай магутнасці сваёй краіны. З кожным днём расце прадукцыя соцыялістычнай прамысловасці. Соцыялістычная сельская гаспадарка дабілася новых поспехаў: калгасныя і соўгасныя палі далі ў гэтым годзе сталінскі ўраджай у 7 мільярдаў пудоў. Значна ўзрос матар'яльны добрабыт працоўных мас горада і вёскі. Нядаўна партыяй і совецкім урадам была апублікавана пастанова аб павелічэнні заработнай платы нізка аплачваемым групам рабочых, аб павелічэнні аплаты выкладчыкаў у вышэйшых навучальных установах.

Партыя і совецкі ўрад штодзённа праяўляюць клопаты аб тым, каб усямерна ўзрастаў добрабыт совецкага народу.

Усе нашы поспехі з'яўляюцца вынікам ажыццяўлення генеральнай лініі партыі Леніна—Сталіна, вынікам ажыццяўлення на практыцы вялікіх прынцыпаў соцыялізма, увасобленых у Сталінскай Канстытуцыі СССР. Гэтыя поспехі заваяваны ў бязлітаснай барацьбе з ворагамі народу—з трацкісцка-бухарынскімі і нацдэмаўскімі бандытамі—агентамі фашызма.

КП(б)Б і беларускі народ пры непасрэднай дапамозе ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна выкрыў і разграміў трацкісцка-бухарынска-рыкаўскіх і нацыянал-фашысцкіх бандытаў, якія доўгі час арудвалі ў БССР. Беларускі народ пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна і ў далейшым будзе бязлітасна выкрываць і граміць усіх прытаіўшыхся агентаў фашызма. Беларускі народ бязмежна ўдзячны партыі Леніна—Сталіна і совецкаму ўраду за аказаную яму дапамогу ў справе хутчэйшай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва.

Народы Совецкай Беларусі разам з усімі народамі Совецкага Саюза радасна сустракаюць першую гадавіну Сталінскай Канстытуцыі і гістарычнага даклада таварыша Сталіна.

Зараз, у сувязі з падрыхтоўкай да выбараў у Вярхоўны Совет СССР на аснове Сталінскай Канстытуцыі, у краіне адбываецца небывалы ўздым палітычнай актыўнасці мас. З агромным энтузіязмам

працоўныя масы краіны перамогшага соцыялізма рыхтуюцца да гістарычнай даты—12 снежня, каб паслаць у вярхоўныя органы краіны лепшых сваіх людзей, адданых справе партыі Леніна—Сталіна. Сярод вылучаных кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР увесь совецкі народ вылучыў першым творца новай Канстытуцыі, арганізатара нашых перамог—таварыша Сталіна.

Выбарчая кампанія ў нашай краіне ператварылася ў магутную дэманстрацыю бязмежнай адданасці совецкага народу свайму правадыру і настаўніку, партыі Леніна—Сталіна, у дэманстрацыю адзінства ўсіх народаў СССР.

«Маральна-палітычнае адзінства народу ў нашай краіне мае і сваё жывое ўвасабленне. У нас ёсць імя, якое стала сімвалам перамог соцыялізма. Гэта імя разам з тым сімвал маральнага і палітычнага адзінства совецкага народу. Вы ведаеце, што гэта імя—Сталін!». **(Молатаў).**

Беларускі народ атрымаў вялікі гонар—выбіраць у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР аднаго з лепшых і бліжэйшых саратнікаў вялікага Сталіна—наркома абароны СССР, першага маршала Совецкага Саюза Клімента Ефрэмавіча Варашылава, які даў сваю згоду балатыравацца па Менскай гарадской выбарчай акрузе. 12 снежня працоўныя Менска аднадушна аддадуць свае галасы Кліменту Ефрэмавічу.

Беларускі народ вылучыў кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР сваіх лепшых прадстаўнікоў, якія на справе, на практычнай рабоце даказалі сваю адданасць нашай краіне, партыі Леніна—Сталіна, за гэтых людзей у дзень выбараў працоўныя масы аддадуць свае галасы.

Ідучы пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі, совецкі народ 12 снежня яшчэ раз прадэманструе перад усім светам сваю згуртаванасць вакол партыі Леніна—Сталіна, вакол свайго правадыра—таварыша Сталіна, сваю адданасць справе соцыялізма і выбера ў вярхоўныя органы дзяржавы лепшых барацьбітоў за справу комунізма.

# Арганізавана падрыхтаваць і правесці выбары ў Вярхоўны Совет СССР

З вялікім уздымам працоўныя нашай сацыялістычнай радзімы сустрэлі рашэнне ўрада аб дні выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

На ўсіх фабрыках і заводах, у калгасах, соўгасах, установах Беларусі з небывалым энтузіязмам і ўрачыстасцю прайшлі мітынгі па поваду гэтага гістарычнага рашэння. Прадвыбарчыя акруговыя раённыя нарады паказалі выключны рост палітычнай актыўнасці самых шырокіх мас працоўных.

Тысячы прапагандыстаў і агітатараў, партыйных і непартыйных большэвікоў, вядуць вялікую растлумачальную работу пад знакам яшчэ большага згуртавання працоўных вакол большэвіцкай партыі, любімага правадыра, настаўніка і друга ўсіх народаў — таварыша Сталіна.

Першымі кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР совецкі народ выставіў любімага правадыра, друга і настаўніка— Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна і яго бліжэйшых верных саратнікаў.

Па ўсіх выбарчых акругах шматмільённыя масы працоўных на сваіх сходах абмеркавалі і вылучылі кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета лепшых, знатных людзей сваёй радзімы, стойкіх байцоў за справу партыі Леніна—Сталіна, здольных весці дзяржаўную работу, здольных моцна, па-большэвіцку, па-сталінску трымаць у сваіх руках руль дзяржаўнага карабля.

Імёны гэтых лепшых сыноў і дачок совецкага народу зарэгістраваны акруговымі выбарчымі камісіямі і аб'яўлены да ўсеагульнага ведама.

Зараз наша краіна падышла да рашаючага, адказнейшага перыяду кампаніі выбараў. Як у горадзе, так і на вёсцы ва ўсю шыр разгарнулася большэвіцкая агітацыя за кандыдатаў, вылучаных агульнымі сходамі працоўных і зарэгістраваных акруговымі выбарчымі камісіямі.

Агітаваць за выстаўленага кандыдата—значыць паказаць выбаршчыкам яго жывое аблічча, гісторыю яго жыцця, расказаць аб тым, як ён заваяваў сабе папулярнасць, у чым праявіў адданасць справе партыі Леніна—Сталіна, справе совецкага народу.

Біяграфіі многіх нашых кандыдатаў вельмі павучальны.

Любімы нарком абароны, першы маршал Совецкага Саюза, верны саратнік таварыша Сталіна—Кліменцій Ефрэмавіч Варашылаў, аднадушна вылучаны працоўнымі Совецкай Беларусі кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР і даўшы згоду балатыравацца па Менскай гарадской выбарчай акрузе, вядомы кожнаму, ад мала да вяліка, ва ўсіх кутках неабсяжнага Совецкага Саюза.

Таварыш Варашылаў—адзін з лепшых і верных саратнікаў вялікага Сталіна—з'яўляецца адным з таленавіцейшых дзяржаўных і палітычных дзеячоў, адным з папулярнейшых людзей нашай эпохі, любімцам беларускага народу, лепшым другам БССР, якой ён аддае многа клопату і ўвагі.

Задача нашых агітатараў—у самай простай, даходчывай форме расказаць выбаршчыкам гісторыю жыцця тав. Варашылава. Расказаць аб тым, як у рэволюцыю 1905 года, у час чорнай царскай рэакцыі, высока трымаў ён сцяг большэвізма і арганізоўваў рабочы клас на барацьбу супроць царызма і буржуазіі. Як у кастрычніку 1917 года луганскі слесар, Клім Варашылаў, узначаліў луганскіх рабочых для звяржэння ўлады буржуазіі. Як у час грамадзянскай вайны, пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна, наперакор здрадніцкай дзейнасці Іудушкі-Троцкага, тав. Варашылаў граміў нямецкіх імперыялістаў, польскіх паноў, дзенікінскія і іншыя наёмныя банды інтэрвентаў. Як лепшы палкаводзец, тав. Варашылаў, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і асабіста таварыша Сталіна,ператварыў нашу доблесную Чырвоную Армію ў самую магутную, непераможную сілу, якая змагаецца за справу міру, за справу недатыкальнасці совецкіх граніц. Як тав. Варашылаў пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна і сумесна з ім граміў трацкістаў, бухарынцаў і ўсякую іншую сволач, якія ператварыліся ў агалцелую банду шпіёнаў і дыверсантаў—наймітаў японагермана-польскага фашызма. Трэба расказаць, як наша партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна забяспечыла перамогу соцыялізма ў краіне Советаў.

Такім-жа чынам мы павінны агітаваць за кожнага кандыдата, зарэгістраванага акруговымі выбарчымі камісіямі. Чым кандыдат заваяваў папулярнасць, як паказаў сябе на вытворчасці, у партыйнай грамадскай рабоце, у палітычным жыцці, чым праявіў сваю адданасць большэвіцкай партыі, справе народу, чым заслужыў высокі гонар быць вылучаным кандыдатам у дэпутаты вярхоўнага органа соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян.

Агітаваць трэба проста і ясна.

Выступаючы са справаздачай Цэнтральнага Камітэта на IX з'ездзе партыі, Ленін гаварыў:

> «Яснасць прапаганды і агітацыі ёсць асноўная ўмова. Калі нашы працаўнікі гаварылі і прызнавалі, што мы зрабілі цуды ў развіцці агітацыі і прапаганды, то гэта трэба разумець не знешнім чынам, што ў нас было многа агітатараў і было патрачана многа паперы, а гэта трэба разумець унутраным чынам, што тая праўда, якая была ў гэтай агітацыі, прабівалася ў галовы ўсіх. І ад гэтай праўды адхіліцца нельга».

Свяшчэнны абавязак кожнага агітатара і прапагандыста—давесці большэвіцкую праўду да розумаў і сэрцаў мільёнаў.

Кастрычніцкі пленум ЦК ВКП(б) даў вычарпальныя ўказанні аб разгортванні арганізацыйнай і агітацыйна-прапагандысцкай работы ў выбарчай кампаніі.

Галоўная ўмова поспеху выбарчай кампаніі—далейшае ўмацаванне сувязі партыйных арганізацый з шырокімі беспартыйнымі масамі.

Правадыры нашай партыі Ленін і Сталін на ўсіх этапах рэволюцыйнай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва падкрэслівалі вялікае значэнне цяснейшай сувязі з масамі. Сіла большэвіцкай партыі—

у здольнасці «звязацца, зблізіцца да пэўнай ступені, калі хочаце, зліцца з самай шырокай масай працоўных, у першую галаву пралетарскай, але таксама і з непралетарскай масай»,—пісаў Ленін. Выконваючы гэта ўказанне Владзіміра Ільіча, наша большэвіцкая партыя заўсёды перамагала цяжкасці, заўсёды знаходзіла новыя і новыя сілы для паспяховага вырашэння сваіх задач.

Усе партыйныя арганізацыі і кожны комуніст павінны добра ўдумацца і запомніць геніяльныя словы таварыша Сталіна: «сувязь з масамі, умацаванне гэтай сувязі, гатоўнасць прыслухоўвацца да голасу мас—вось у чым сіла і непераможнасць большэвіцкага кіраўніцтва».

Ад кожнага гаркома і райкома партыі, ад кожнай партыйнай арганізацыі зараз, як ніколі, патрабуецца ўмелае кіраўніцтва, добрая арганізаванасць, правільная расстаноўка агітатараў і прапагандыстаў, каб забяспечыць большэвіцкі ўплыў усюды і яшчэ больш умацаваць сувязь з беспартыйнаю масай. Кожная партарганізацыя абавязана выкарыстаць увесь свой апарат, увесь партыйны актыў, каб мабілізаваць свядомасць мас у карысць лепшых людзей краіны соцыялізма, выстаўленых кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета.

* * *

Вялікія задачы стаяць зараз перад культпропамі, парткабінетамі, клубамі, работнікамі агітацыі і прапаганды.

На нарадзе загадчыкаў культпропаў, скліканай пры ЦК КП(б)Б, паасобныя таварышы з Гомеля, Віцебска, Клімавіч хваліліся, што ў іх арганізаваны па 1000 з лішнім гурткоў, падабраны па 500 і больш агітатараў, што гурткамі ахоплены дзесяткі тысяч працоўных. Але ніхто з іх нічога не здолеў сказаць аб якасці работы гэтых гурткоў, аб падрыхтаванасці агітатараў. З-за лесу лічбаў, яны не дагледзелі асноўнага—якасці работы.

Рад фактаў гаворыць аб тым, што раённыя камітэты партыі да інструктажу і праверкі пасылаемых агітатараў і прапагандыстаў падышлі фармальна, праявілі палітычную бесклапотнасць.

У Сталінскім раёне г. Менска партарганізацыя тэхнікума хлебапячэння вылучыла двух палітычна няграматных агітатараў, якіх прышлося зняць з участка. У Віцебску прапагандыст Кейзераў не здолеў адказаць на рад простых пытанняў аб парадку галасавання. У Крупскім і Чырвона-Слабодскім раёнах арганізаваны гурткі па 75 і больш чалавек. У некаторых раёнах адзін прапагандыст абслугоўвае па 4—5 гурткоў. Вядома, што тут ужо якасці чакаць нельга.

У Бабруйску партарганізацыя Мясакамбіната фармальна прымацавала комуністаў да кватэркомаў і выбарчых участкаў, але не паклапацілася арганізаваць кантроль за работай гэтых агітатараў. У рэзультаце аказалася, што гурткі гэтых кватэркомаў не працуюць з ліпеня, і насельніцтва не вывучала яшчэ Сталінскай Канстытуцыі і Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет.

Па Слуцкай сельскай выбарчай акрузе у калгасах «Совет» і «Рэволюцыя» Даросінскага сельсовета да гэтага часу не праведзена ні аднаго занятка па вывучэнню выбарчага закона. У Лагойскім раёне, паводле вестак райкома партыі, арганізавана 343 гурткі, але большасць іх не працуе. У Янушкаўскім сельсовеце з 14 гурткоў 5 не прыступалі да работы, а ў 7 гуртках за два месяцы праведзена па

аднаму занятку. У соўгасе імя Леніна Горацкага раёна зусім не вывучаюць выбарчага закона. У Лагойскім раёне два кіраўнікі гурткоў аказаліся ворагамі народу.

Трэба неадкладна змяніць адносіны да агітацыі і прапаганды на выбарчых участках і забяспечыць усе гурткі добрымі прапагандыстамі. Пры камплектаванні гурткоў абавязкова ўлічваць зменнасць работы на прадпрыемствах.

Кожны агітатар павінен мець план работы, ведаць сваіх выбаршчыкаў, прыходзіць да іх на дом, вывучаць запросы кожнага, каб мець магчымасць адказаць на ўсе пытанні, якія цікавяць выбаршчыка. Трэба дабіцца, каб агітатар, прапагандыст адчуваў сябе не толькі настаўнікам, але і большэвіцкім арганізатарам выбаршчыкаў.

Парткабінеты, клубы, хаты-чытальні павінны арганізаваць кваліфікаваную кансультацыю для агітатараў і прапагандыстаў, скласці рэкамендацыйныя спісы літаратуры да выбарчай кампаніі, наладзіць выстаўкі аб нашых дасягненнях за 20 год, аб мінулым і сучасным данага населенага пункта, прадпрыемства, калгаса. Плакаты, лозунгі, дыяграмы, насценгазеты дапамогуць агітатарам у іх вялікай палітычнай рабоце. Выбаршчык таксама павінен атрымаць тут даведку па любому пытанню.

На-жаль, яшчэ не ўсюды гэтыя ачагі культуры як след выконваюць сваю вялікую ролю. Клуб імя Сталіна, клуб металістаў, нават Дом партактыва (г. Менск) не падрыхтаваны да абслугоўвання выбаршчыкаў. У большасці сельсоветаў Глускага раёна хаты-чытальні зусім закрыты. Так далей быць не можа. Парткабінеты, клубы, хатычытальні павінны актыўна ўключыцца ў выбарчую кампанію.

* * *

Цэнтрам палітычнай масавай работы ў выбарчай кампаніі з'яўляецца выбарчы ўчастак. Сюды трэба накіраваць лепшыя кадры агітатараў і прапагандыстаў.

Трэба цвёрда памятаць тую асаблівасць надыходзячых выбараў у Вярхоўны Совет, што галасаванне будзе праходзіць не па прадпрыемствах ці ўстановах, а па тэрытарыяльнаму прызнаку, г. зн. па месцу жыхарства кожнага выбаршчыка. Рабочыя аднаго якога-небудзь прадпрыемства будуць галасаваць у розных выбарчых участках. Тым часам на прадпрыемствах Менска многія выбаршчыкі яшчэ не ведаюць, дзе знаходзяцца іх выбарчыя ўчасткі. Партыйныя арганізацыі абмяжоўваюцца тым, што збіраюць агульнагарадскія мітынгі, агульназаводскія сходы, прадвыбарчыя акруговыя і раённыя нарады, забываючы, што выбіраць дэпутатаў у Вярхоўны Совет працоўныя будуць не па месцу работы, а па месцу жыхарства. Арганізацыйную і палітычна-масавую работу неабходна павесці на саміх выбарчых участках, склікаць нарады партыйнага і беспартыйнага актыва, які пражывае на тэрыторыі ўчастка, і дабіцца ад яго дапамогі выбарчай камісіі ва ўсёй яе рабоце.

На давераных асоб, абраных на прадвыбарчых акруговых нарадах, ускладзены адказныя і ганаровыя абавязкі. Ім даручана арганізаваць на выбарчых участках большэвіцкую агітацыю так, каб усе выбаршчыкі аддалі свае галасы намечанаму кандыдату, зарэгістраванаму акруговай выбарчай камісіяй.

Раённыя камітэты партыі, пярвічныя партарганізацыі, камсамольскія і профсаюзныя арганізацыі (апошнія яшчэ вельмі слаба ўдзель-

нічаюць у выбарчай кампаніі) павінны дапамагчы даверанным асобам у іх рабоце.

Не дрэнна пастаўлена агітацыйная работа на выбарчым участку № 24, да якога прымацавана партарганізацыя фабрыкі «Комунарка» (Менск). Для выбаршчыкаў быў наладжан спецыяльны вечар, прысвечаны К. Е. Варашылаву—кандыдату ў дэпутаты ад Менскай гарадской выбарчай акругі. На вечары выступалі ўдзельнікі грамадзянскай вайны, якія ваявалі пад кіраўніцтвам тав. Варашылава і бывалі ў яго. У праграму вечара была ўключана мастацкая частка: вакальныя, музыкальныя нумары, дэкламацыя вершаў аб тав. Варашылаве. Агітатар выбарчага ўчастка № 80 тав. Лабанаў (партарганізацыя Мясакамбіната) прыходзіць з патэфонам на кватэры рабочых і арганізуе слуханне пласцінак з прамовамі таварышоў Леніна і Сталіна.

Але не ўсюды партарганізацыі дапамагаюць рабоце даверaных асоб.

Бабруйскі райком партыі першы раз сабраў давераных асоб толькі 12 лістапада. У гэты-ж дзень былі вылучаны ў дапамогу ім агітатары і прапагандысты. У Серажскім, Мялешкаўскім і Сераднякоўскім сельсоветах Слуцкай выбарчай акругі ніхто яшчэ не ведае навят прозвішчаў давераных асоб, не кажучы ўжо пра дапамогу ім партарганізацый.

Работа даверанай асобы мае вялікае грамадска-палітычнае значэнне. Кожны райком партыі павінен выкарыстаць давераных асоб, як інфарматараў, каб лепш ведаць, што робіцца на выбарчым участку, своечасова выявіць малейшыя спробы варожай агітацыі. Ад энергіі і размаху работы даверанай асобы і пастаноўкі палітагітацыі будзе залежаць стопроцантная яўка на выбары.

Да гэтага гістарычнага дня кожны совецкі грамадзянін павінен добра ведаць Сталінскі выб рчы закон. Ганаровы абавязак партыйных, профсаюзных, комсамольскіх і грамадскіх арганізацый—дапамагчы ўсім працоўным глыбока вывучыць Сталінскую Канстытуцыю і новы выбарчы закон.

* * *

Вялікую ўвагу неабходна ўдзяліць і так званай тэхнічнай рабоце выбарчых камісій. Памяшканні выбарчых участкаў павінны быць добра абсталяваны, упрыгожаны партрэтамі правадыроў партыі, лозунгамі, плакатамі. Трэба арганізаваць дзяжурства членаў камісіі, агітатараў і актывістаў. Трэба яшчэ і яшчэ раз праверыць склад членаў выбарчых камісій і ўцягнуць іх усіх у актыўную работу на выбарчых участках.

Неабходна выправіць скажэнні і памылкі, дапушчаныя пры пярвічным складанні выбарчых спісаў. Бо ёсць факты, калі ў спісах прапушчаны цэлыя вуліцы, недапісаны сем'і, пераблытаны імёны, прозвішчы выбаршчыкаў. Кіраўнікі Старобінскага раёна праглядзелі такі абураючы факт: на першым выбарчым участку выбран членам камісіі і зацверджан райвыканкомам Алешка Іван Сцяпанаў, якому яшчэ няма 18 год.

Да кожнай «дробязі» мы павінны адносіцца з усёй большэвіцкай сур'ёзнасцю.

> «Увага арганізацыйным пытанням, у тым ліку і дробязям, пры правядзенні любой палітычнай кампаніі, заўсёды адзначала

сапраўднага большэвіка, заўсёды была ўласціва партыі Леніна—Сталіна. Тым больш зараз, калі мы праводзім самую масавую і самую складаную палітычную кампанію, якая толькі была за гады рэволюцыі, усякая пагарда да арганізацыйных пытанняў недапушчальна» **(«Правда»).**

Райкомы партыі павінны інструктаваць выбарчыя камісіі і давераных асоб не толькі на агульных нарадах, але наглядна—у самім памяшканні выбарчага ўчастка. Трэба арганізаваць работу так, каб не было чаргі, каб хутка можна было знайсці ў спісе прозвішча выбаршчыка. Усё трэба прадумаць і прадугледзець загадзя.

Ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце да выбараў у Вярхоўны Совет ні на хвіліну нельга забываць аб тым, што ворагі народу—трацкісцка-бухарынскія вырадкі, прадстаўнікі рэлігійных культаў і ўсякая іншая нечысць паспрабуюць пранікнуць у рады прапагандыстаў і агітатараў, каб праводзіць сваю падрыўную работу, будуць імкнуцца пралезці і ў нашыя вярхоўныя органы ўлады.

Высока трымаць сцяг рэволюцыйнай пільнасці, зорка сачыць за прошукамі ворагаў народу і іх прыспешнікаў, бязлітасна выкрываць і выкарчоўваць трацкісцка-бухарынскіх, нацдэмаўскіх бандытаў і іх падручных—абавязак кожнага партыйнага і непартыйнага большэвіка, кожнага чэснага працоўнага.

* * *

Выбарчай кампаніяй жыве зараз уся наша краіна. Працоўныя СССР ахоплены жаданнем правесці ў вярхоўныя органы совецкай улады лепшых людзей радзімы—партыйных і непартыйных большэвікоў, беззаветна адданых справе большэвіцкай партыі, справе вялікага совецкага народу, людзей, якія ўмеюць кіраваць дзяржавай і весці яе да новых і новых перамог.

Баявой падрыхтоўкай да выбараў павінна зараз быць пранізана работа ўсіх нашых партарганізацый, дзейнасць кожнага партыйнага кіраўніка, кожнага члена партыі. Гэта азначае далейшую перабудову арганізацыйна-масавай, партыйна-палітычнай работы, выкананне сталінскіх указанняў аб аўладанні большэвізмам, выхаванне і загартоўку нашых кадраў, ліквідацыю нашай палітычнай бесклапотнасці.

Няма сумнення ў тым, што сапраўды дэмакратычныя выбары ў вярхоўныя органы першай у гісторыі чалавецтва соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян пройдуць паспяхова, што ў Вярхоўны Совет СССР будуць выбраны лепшыя людзі нашай радзімы, надзейныя байцы за комунізм.

---

**І. Жарыкаў**

Старшыня выбарчай камісіі ўчастка № 29
Менскай гарадской выбарчай акругі

# Па-большэвіцку выканаем ускладзеныя на нас задачы

Яркія дні перажывае наша цудоўная радзіма. Набліжаецца гістарычная дата—12 снежня,—калі кожны грамадзянін урачыста падасць свой голас за лепшых прадстаўнікоў шматмільённага свабоднага народу ў вярхоўныя органы краіны. За таго, хто забяспечыў шчаслівае і радаснае жыццё, даў права на працу, адпачынак і вучобу, чыё імя з любоўю і павагай вымаўляецца на мовах усіх народаў,—за друга і правадыра працоўных таварыша Сталіна, за слаўных яго саратнікаў—Варашылава, Молатава, Кагановіча, Калініна, Ежова і іншых адданых таварышоў, якія чэсна ідуць па ленінска-сталінскім шляху.

К гэтаму гістарычнаму дню ўчастковыя выбарчыя камісіі павінны сур'ёзна прадумаць рад арганізацыйных пытанняў, каб поўнасцю забяспечыць яўку выбаршчыкаў для галасавання.

Я асабіста, як старшыня 29 участка Менскай гарадской выбарчай акругі разам з сакратаром тав. Лазорэвай І. П., склаўшы чарнавыя спісы выбаршчыкаў, абышлі кожны дом, кожную кватэру і праверылі, ці правільна складзены спісы. Толькі пасля гэтага чарнавы спіс перадалі для друкавання ў горсовет. Мы чакалі, што спісы будуць надрукаваны добра. Але вялікая было наша здзіўленне, калі пры праверцы ўжо надрукованых спісаў выявілася, што некаторыя выбаршчыкі носяць імя мужчынскае, а прозвішча жаночае. Надрукавана, напрыклад, Андрэева Александр Фёдаравіч замест Андрэеў Александр Фёдаравіч. Многія прозвішчы надрукаваны няясна або зусім незразумела па віне машыністкі Немцовай, якая з выключнай неахайнасцю аднеслася да такой адказнай работы. Часта адно прозвішча надрукавана паверх другога, так што і праз лупу нічога не разбярэш. Менскі горсовет абавязан тэрмінова ўпарадкаваць спісы выбаршчыкаў, перадрукаваць паасобныя лісты, бо яны вывешаны ў такім выглядзе, у якім атрыманы з горсовета. Выбарчыя ўчасткі неабходна своечасова забяспечыць кабінетамі, урнамі і столікамі, каб не было такой непрыемнасці, як са спісамі выбаршчыкаў.

Да нашага выбарчага ўчастка прымацавана партарганізацыя Наркамзема. Аднак яна амаль ні ў чым не дапамагла нам. А работы шмат. Пры актыўным удзеле комсамольцаў 37 сталінскай школы—тт. Дворкінда, Карповіча, Плесневіча, Багдановіча, Маршака, Агінскай, Хасіневіча, Шостака, Рабіновіча, Дразда, Сандлера, Геруека і Перэль-

мана—намі арганізавана 15 гурткоў па вывучэнню выбарчага закона. Гурткамі ахоплена 268 хатніх гаспадынь. З 1 лістапада ўсе гурткі працуюць рэгулярна і чотка. 15 лістапада выбарчая камісія запрасіла прафесара Канапліна для інструктажу агітатараў па выбарчаму закону. Слухачы засталіся задаволены. Планам намечана праводзіць часцей такі інструктаж. Участковая камісія правяла два пасяджэнні. На першым былі абмеркаваны абавязкі паміж членамі камісіі, а на другім абмеркавалі план работы і графік дзяжурстваў.

18 лістапада для выбаршчыкаў нашага ўчастка адбыўся даклад на тэму «Совецкая дэмакратыя—дэмакратыя для ўсяго народу». Пасля даклада вучні 37 школы далі канцэрт сваімі сіламі.

Каб забяспечыць правільнасць спісаў, кожнаму выбаршчыку паслана паведамленне аб тым, як яго прозвішча і адрас надрукаваны ў спісе, і запрашэнне зайсці ў памяшканне ўчастка, каб праверыць правільнасць даных аб сабе звестак.

Зараз перад выбарчай камісіяй стаіць пытанне, як забяспечыць стопроцантную яўку ў дзень выбараў. Разам з сакратаром парткома Наркамзема тав. Малашэнка мы разбілі па вуліцах свой выбарчы ўчастак і для кожнай указалі гадзіну яўкі для галасавання. Актыў партыйцаў і комсамольцаў у сістэме гуртковай работы знаёміць выбаршчыкаў з дэталямі галасавання.

Выбаршчыкаў з фізічнымі недахопамі, старых і хворых, якія самі не могуць прыйсці ў выбарчы ўчастак, будуць падвозіць і адвозіць дзве дзяжурныя легкавыя машыны. У пакоях чакання будуць даміно, шашкі, шахматы, радыё. Ствараем пакой маці і дзіцяці. Сіламі актыва вучняў 9—10 класа 37 школы для выбаршчыкаў будзе наладжан канцэрт. Зараз школа рыхтуе песні, дэкламацыі, пляскі, выступленне струннага аркестра.

Выбарчы ўчастак абсталёўваецца і ўпрыгожваецца так, каб выбаршчык меў магчымасць адпачыць і выканаць свой доўг грамадзяніна СССР.

Выбарчая камісія 29 выбарчага ўчастка ўпэўнена ў тым, што яна чэсна, па-большэвіцку справіцца са сваёй задачай і з гонарам апраўдае давер'е, аказанае ёй партыяй і ўрадам.

І. Саладкоў

Старшыня камісіі 61 участка Менскай гарадской выбарчай акругі

# З вопыту работы на выбарчым участку

Партыйныя і комсамольскія арганізацыі Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б, АТС і тэхнікума хлебапячэння шырока разгарнулі арганізацыйную і прапагандысцка-агітацыйную работу на выбарчым участку № 61, да якога яны прымацаваны Сталінскім райкомам партыі.

Асаблівая ўвага ўдзелена падбору агітатараў і прапагандыстаў. Непасрэдны ўдзел у падборы прымалі сакратар парткома Гістпарта, парторг АТС і сакратар комсамольскага камітэта тэхнікума хлебапячэння. З 42 вылучаных агітатараў і прапагандыстаў—10 членаў партыі, 2 кандыдаты, 21 комсамолец і 9 беспартыйных.

Партарганізацыя Гістпарта ў дапамогу агітатарам вылучыла двух найбольш падрыхтаваных таварышоў, якія праводзілі з агітатарамі семінары і нарады, наведвалі заняткі гурткоў, цікавіліся якасцю іх работы.

У памяшканні ўчастковай выбарчай камісіі з 12 лістапада наладжана кансультацыя для агітатараў і выбаршчыкаў па ўсіх пытаннях Сталінскай Канстытуцыі, Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР і міжнароднай палітыкі. Дзяжурнымі кансультантамі партарганізацыя Гістпарта вылучыла 10 найбольш падрыхтаваных таварышоў.

Сур'ёзная падрыхтоўка агітатараў да заняткаў у гуртках забяспечыла нядрэнную якасць іх работы з выбаршчыкамі.

У групе агітатара-комсамольца тав. Шэпілава займаецца 12 хатніх гаспадынь. Слухачы за 8 заняткаў вывучылі «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР». Тав. Шэпілаў знаёміць слухачоў з выбарчай сістэмай у капіталістычных краінах, з пытаннямі міжнароднага становішча. Слухачы задаволены работай свайго агітатара.

Агітатар-комсамолец тав. Ляшчэнка акуратна рыхтуецца да заняткаў, увязвае вывучэнне палажэння аб выбарах з агульнымі дасягненнямі нашай краіны, правёў гутарку аб XX гадавіне Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

Агітатар тав. Грыневіч расказвае: «Да работы прыступіў 24 кастрычніка. Азнаёміўшыся з хатнімі гаспадынямі, якіх у маім гуртку аказалася 7 чалавек, растлумачыў ім асновы Сталінскай Канстытуцыі, правы і абавязкі грамадзян СССР, чым яны адрозніваюцца ад правоў працоўных у капіталістычных краінах. Расказаў пра карэннае адрозненне двух палат у Вярхоўным Совеце СССР і ў буржуазным пар-

ламенце, пра росквіт дружбы народаў СССР. Пасля гэтага пачаў вывучэнне выбарчага закона. Пастулова па артыкулах зачытваў, а потым растлумачваў. Асаблівую ўвагу звярнуў на тэхніку выбараў, бо па гэтай главе задавалася найбольш пытанняў».

У сучасны момант тав. Грыневіч прыступіў да вывучэння з выбаршчыкамі біяграфіі кандыдата ў дэпутаты Совета Саюза па Менскай гарадской выбарчай акрузе—наркома абароны тав. Варашылава і кандыдата ў дэпутаты Совета Нацыянальнасцей тав. Ванеева. Агітацыю за кандыдатуры тав. Грыневіч умела ўвязвае з паказам агромнейшых дасягненняў нашай краіны за дваццаць год совецкай улады.

Агітатар-комсамолка тав. Курпель дзеліцца вопытам сваёй работы: «У маім гуртку 5 чалавек. Пачала работу 14 кастрычніка. За гэты час правяла 8 заняткаў па 2 гадзіны. Азнаёміўшы слухачоў з асноўнымі палажэннямі Сталінскай Канстытуцыі і Выбарчага закона, пачала зачытваць кожны артыкул і тлумачыць яго на канкрэтных прыкладах. Потым у парадку гутаркі паўтарыла ўсё пройдзенае, асаблівую ўвагу звярнуўшы на парадак галасавання. Цяпер мне засталася самая адказная справа—агітацыя за нашых кандыдатаў тт. Варашылава і Ванеева, каб мае слухачы добра ведалі тых, за каго ў дзень выбараў будуць аддаваць свой голас».

Нядрэнна працуюць у гуртках тт. Міхейчык, Кецко, Савіцкая і іншыя агітатары.

Адказваючы на пастаўленыя пытанні, агітатарам нярэдка ўдаецца ўцягнуць усю масу слухачоў у ажыўленую гутарку. Так, слухач гуртка Метліцкая Рэвека, уважліва выслухаўшы тлумачэнне аб значэнні двухпалатнай сістэмы, заявіла: «Як я рада, што дажываю свой век у такой выдатнай краіне, дзе ўсе нацыі роўны, дзе няма нацыянальнага прыгнечання. І як жудасна ўспомніць праклятае мінулае, калі чорнасоценцы і паліцыя арганізоўвалі яўрэйскія пагромы. Я з найвялікшай радасцю буду галасаваць за вылучаных кандыдатаў: любімага наркома абароны таварыша Варашылава і стойкага большэвіка тав. Ванеева».

Старушка Маркіна заявіла: «Ніколі я так молада не была, як цяпер. Партыя Леніна—Сталіна вывела нас на светлы, шчаслівы шлях. У нашай краіне няма больш пануючых і прыгнечаных нацый. Усе роўныя, усе маюць права выбіраць і быць выбранымі». Старык Дуберштэйн сказаў: «Я добра памятаю класавы гнёт у царскай Расіі, калі рабочы чалавек не меў ніякіх правоў. Цяпер мы пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна дабіліся таго, што маем самую дэмакратычную ў свеце Канстытуцыю. Хоць я і старык, але ўпэўнен у тым, што яшчэ ўбачу дзень, калі капіталізм будзе знішчан ва ўсім свеце».

Акрамя работы ў гуртках арганізуюцца масавыя сходы выбаршчыкаў, экскурсіі і т. д. Амаль усе хатнія гаспадыні выказваюць пажаданне, каб такую работу праводзілі з імі не толькі ў перыяд выбараў, але і ўвесь час.

11 лістапада з вялікім уздымам прайшоў сход выбаршчыкаў, прысвечаны згодзе тав. К. Е. Варашылава балатыравацца ў дэпутаты Совета Саюза па Менскай гарадской выбарчай акрузе. На сходзе прысутнічала 160 чалавек.

З пачуццём вялікай радасці гаварылі выбаршчыкі аб любімым наркоме. Тав. Банькоўскі сказаў: «Мы дабіліся шчаслівага, радаснага

жыцця. Нашы перамогі і дасягненні запісаны ў Сталінскай Канстытуцыі. Цяпер ні адна капіталістычная краіна не здолее разбіць нашу Чырвоную Армію, бо яна моцна апранута ў жалеза і сталь».

Хвалюючым было выступленне пажылой хатняй гаспадыні тав. Уласевіч: «Нам выпала вялікае шчасце галасаваць за вернага саратніка таварыша Сталіна—першага маршала Совецкага Саюза Клімента Ефрэмавіча Варашылава. Я часта ўспамінаю, як мы жылі раней і гавару сваім дзецям, што яны—самыя шчаслівыя ў свеце. Яны зараз усё маюць. Яны маюць такія прыгожыя сталінскія школы, як гэта, у якой мы праводзім сход. У старой царскай арміі салдат збівалі без усякага на тое повадку: не так павярнуўся, не паспеў аддаць чэсць, гузікі не начышчаны. У нашай горача любімай Чырвонай Арміі моцная, свядомая дысцыпліна. Кожны наш чырвонаармеец у любую мінуту гатоў на самаафярны ўчынак для ўмацавання соцыялістычнай радзімы. Я буду бязмежна шчаслівa, калі мой сын пойдзе ў Чырвоную Армію. У нас ёсць што абараняць, ёсць каму абараняць і ёсць чым абараняць».

Удзельнікі сходу паслалі жалезнаму наркому абароны пісьмо, у якім заявілі:

«З пачуццём агромнай радасці і задавальнення мы, выбаршчыкі 61 участка Менскай выбарчай акругі, сустрэлі Вашу згоду балатыравацца па нашай выбарчай акрузе.

Ваша згода яшчэ раз сведчыць аб вялікіх клопатах і любві, якія праяўляюцца да працоўных БССР—баявога фарпоста СССР на Захадзе—нашым вялікім правадыром таварышом Сталіным і Вамі, Клімент Ефрэмавіч.

Мы абавязваемся яшчэ вышэй узняць сцяг большэвіцкай пільнасці, бязлітасна выкараняць усіх і ўсякіх ворагаў народу, як-бы яны ні маскаваліся. Яшчэ шчыльней згуртуемся вакол нашай партыі, ЦК ВКП(б) і любімага правадыра таварыша Сталіна, будзем усямерна мацаваць магутнасць нашай доблеснай Чырвонай Арміі, якая стаіць на варце соцыялістычных заваёў совецкага народу.

Мы запэўніваем Вас, што высокае давер'е, якое Вы аказалі працоўным нашай выбарчай акругі, поўнасцю апраўдаем, даказаўшы аднадушным галасаваннем за Вашу кандыдатуру сваю адданасць справе Леніна—Сталіна, справе перамогі комунізма ва ўсім свеце».

Найбольш масавым быў сход 24 лістапада, прысвечаны гадавіне VIII Надзвычайнага з'езда Советаў і даклада таварыша Сталіна «Аб праекце новай Канстытуцыі». На сходзе прысутнічала звыш 800 чалавек выбаршчыкаў. У сваіх выступленнях яны выказвалі пачуцці бязмежнай адданасці і любві творцу вялікай Канстытуцыі, правадыру, другу і настаўніку працоўных усяго свету—Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну.

Сход аднадушна рашыў паслаць таварышу Сталіну прывітальную тэлеграму:

«Мудраму правадыру, настаўніку і другу ўсяго працоўнага чалавецтва—Вам таварыш Сталін,—мы, выбаршчыкі ўчастка № 61 гор. Менска, шлем сваё першае слова любві, сваё палкае прывітанне.

Мы сабраліся на наш участковы сход выбаршчыкаў, каб адзначыць гадавіну з дня адкрыцця Надзвычайнага VIII Усесаюзнага з'езда Советаў, дзе была зацверджана Вялікая Канстытуцыя, творцом якой з'яўляецеся Вы, Іосіф Вісарыёнавіч!

За мінулы год з дня VIII з'езда Советаў і Вашага гістарычнага даклада беларускі народ разам з усім народам нашай вялікай соцыялістычнай радзімы, натхнёны Сталінскай Канстытуцыяй, дабіўся новых перамог у будаўніцтве соцыялізма.

Няма слоў, каб выразіць Вам свае глыбокія пачуцці бязмежнай адданасці за радаснае і шчаслівае жыццё, заваяванае пад Вашым геніяльным кіраўніцтвам.

Мы бязмежна шчаслівы, што 12 снежня будзем галасаваць па Менскай выбарчай акрузе за Вашага бліжэйшага саратніка і друга мудрага палкаводца нашай роднай Чырвонай Арміі—Клімента Ефрэмавіча Варашылава. У гэты дзень мы яшчэ раз прадэманструем сваю любоў, адданасць справе партыі Леніна—Сталіна, Вам—родны наш Іосіф Вісарыёнавіч.

Мы ўпэўнены, што і ў далейшым, шчыльна згуртаваўшы свае рады вакол вялікай партыі Леніна—Сталіна, маючы на чале такога геніяльнага стратэга і арганізатара перамог соцыялізма, як Вы, Іосіф Вісарыёнавіч,—мы пойдзем наперад па шляху заваёў новых вышынь комунізма».

На гэтым-жа сходзе была арганізавана сустрэча выбаршчыкаў з кандыдатам у дэпутаты Совета Нацыянальнасцей ад Менскай гарадской выбарчай акругі—тав. В. Г. Ванеевым.

Сход вельмі цёпла сустрэў свайго кандыдата. Выступаўшыя на сходзе тт. Лугавой, Шарф і іншыя выбаршчыкі гаварылі, што яны аддадуць свае галасы за кандыдатуру тав. Ванеева ў дэпутаты Совета Нацыянальнасцей. Гэтыя заявы сход сустрэў аднадушнаю ўхвалай.

Усе масавыя мерапрыемствы нам удалося правесці арганізавана дзякуючы таму, што ўчастковая выбарчая камісія і даверáны тав. Кірзнер у сваёй рабоце апіраліся на агітатараў, а таксама на актыў выбаршчыкаў. Пры дапамозе агітатараў і актыва выбаршчыкі загадзя паведамляліся аб тым, для якой мэты іх збіраюць, якія пытанні будуць вырашаны, і прыходзілі на сход падрыхтаваўшыся.

Масавыя сходы мы імкнуліся абслужыць культурна. Прыцягнулі драматычны гурток АТС, гурткі мастацкай самадзейнасці тэхнікума хлебапячэння, 47 сярэдняй школы, у памяшканні якой знаходзіцца наша ўчастковая выбарчая камісія. На сходзе 24 лістапада быў дан канцэрт сіламі кансерваторыі.

За ўвесь час праведзены з выбаршчыкамі 3 экскурсіі: на выстаўку «БССР за 20 год», у Дом Чырвонай Арміі, у Палац піянераў. У экскурсіях удзельнічала 180 выбаршчыкаў галоўным чынам хатнія гаспадыні.

Даверáны тав. Кірзнер правёў дзве нарады комуністаў і комсамольцаў,—выбаршчыкаў нашага ўчастка—для абмеркавання падрыхтоўкі да дня выбараў. Цэлы рад унесеных на нарадах каштоўных прапаноў улічан выбарчай камісіяй і зараз рэалізуецца.

На выбарчым участку нам удалося арганізаваць вітрыну з фотадакументамі аб жыцці і дзейнасці нашага кандыдата ў дэпутаты Совета Саюза—Клімента Ефрэмавіча Варашылава. Вітрына наглядна паказвае ўвесь жыццёвы шлях гэтага цвёрдакаменнага большэвіка. Прыгожа аформлена таксама вітрына літаратуры, прысвечанай выбарам у Вярхоўны Совет. Выпускаецца насценгазета, пабудаваная на матар'ялах саміх выбаршчыкаў.

Некалькі слоў аб арганізацыйнай рабоце ўчастковай выбарчай камісіі.

Асаблівая ўвага была звернута на спісы выбаршчыкаў. Члены камісіі разам з актывам праверылі складзеныя горсоветам спісы і выявілі пры гэтым вялікія скажэнні. Пераблытаны прозвішчы выбаршчыкаў, год нараджэння, многія выбаршчыкі аказаліся зусім не ўнесенымі ў спісы. Пасля неаднаразовай праверкі спісы былі выпраўлены.

Работа камісіі праходзіць па плану. Адбылося тры пасяджэнні камісіі, на якіх вырашаны розныя пытанні: тэхніка запаўнення выбарчых дакументаў, устанаўленне штодзенных дзяжурстваў, арганізацыя кансультацый, парадак паведамлення выбаршчыкаў аб дні і месцы выбараў, афармленне памяшкання і інш.

Участковая камісія занята зараз пытаннем тэхнікі выбараў. Па спісах у нас 1320 выбаршчыкаў. Самі выбаршчыкі ўнеслі такую прапанову: яны пастараюцца запомніць свае нумары ў спісах, што палегчыць сакратару камісіі адшукаць прозвішча выбаршчыка, выдаць бюлетэні і зрабіць аб гэтым адзнаку. Студэнты Мед'інстытута аднадушна заявілі, што яны ў дзень выбараў прыдуць першымі галасаваць а 6 гадзіне раніцы (на нашым участку студэнты складаюць адну трэць агульнай колькасці выбаршчыкаў).

Каб унікнуць чаргі ў дзень выбараў і забяспечыць выбаршчыкам усе выгоды, камісія намеціла абсталяваць чытальню, пакой гульняў, дзе будуць шахматы, шашкі, даміно, більярд і т. д. Таксама будзе працаваць дзіцячы пакой. Цацкі для дзяцей забяспечвае піянерскі атрад 47 школы, а займацца дзецьмі будуць комсамолкі да 18-гадовага ўзросту, якія не ўдзельнічаюць у выбарах. Гэтых людзей нам вылучае комсамольская арганізацыя тэхнікума хлебапячэння.

На дзень галасавання абавязкі паміж членамі камісіі размеркаваны наступным чынам: сакратар і намеснік старшыні будуць заняты выдачай бюлетэняў, адзін з членаў камісіі будзе знаходзіцца ля ўваходных дзвераў і ўказваць выбаршчыкам, дзе знаходзяцца пакоі чакання і дзе выдаюцца бюлетэні, ён-жа будзе распараджацца пасылкай машыны за выбаршчыкамі, якія маюць патрэбу ў перавозцы. Адзін з членаў камісіі будзе знаходзіцца ля дзвераў пакоя, дзе ўстаноўлены кабіны, і накіроўваць выбаршчыкаў у свабодныя кабіны. Два члены камісіі будуць знаходзіцца ў памяшканні, дзе стаяць урны.

Сустрэчнага патоку выбаршчыкаў не будзе. Выбаршчык, атрымаўшы бюлетэнь перад уваходам ў пакой для галасавання і прагаласаваўшы, выходзіць у наступны пакой, апускае канверт у яшчык і выходзіць другім ходам на вуліцу.

Камісія набыла 12 кабін і столькі-ж столікаў, на якіх будуць пісьмовыя прылады, а таксама надрукаваныя вытрымкі з Палажэння аб выбарах, дзе сказана аб тым, як трэба запаўняць выбарчы бюлетэнь.

У бліжэйшы час адбудзецца прадвыбарчы сход маладых выбаршчыкаў, прысвечаны кандыдату ў дэпутаты ў Совет Саюза тав. К. Е. Варашылаву.

Мы ўпэўнены ў тым, што ўсе нашы выбаршчыкі, як адзін чалавек, будуць галасаваць за нашых кандыдатаў: за горача любімага жалезнага наркома абароны таварыша Варашылава—у Совет Саюза і за тав. Ванеева—у Совет Нацыянальнасцей. Зарукай таму—добра пастаўленая агітацыйная работа і выключны ўздым палітычнай актыўнасці шырокіх мас выбаршчыкаў.

# Што павінен ведаць кожны выбаршчык

## Аб выбарчым бюлетэні

12 снежня, прышоўшы ў памяшканне ўчастковай выбарчай камісіі, адведзенае для галасавання, па месцу свайго жыхарства або часовага прабывання, выбаршчык павінен прад'явіць дакумент, які сведчыць яго асобу (пашпарт або калгасную кніжку, або профсаюзны білет, або вайсковую кніжку, або іншае пасведчанне асобы). Пасля праверкі па спісу выбаршчыкаў і адпаведнай адзнакі ў спісе выбаршчык атрымае ў сакратара або ў членаў камісіі выбарчыя бюлетэні і канверт.

Кожны выбаршчык атрымае па два бюлетэні: адзін—белага колеру з прозвішчамі кандыдатаў у дэпутаты Совета Саюза, другі—блакітнага колеру з прозвішчамі кандыдатаў у дэпутаты Совета Нацыянальнасцей.

У аўтаномных рэспубліках і аўтаномных абласцях, а таксама ў нацыянальных акругах кожны выбаршчык атрымае яшчэ трэці бюлетэнь—светлазялёнага колеру з прозвішчамі кандыдатаў у дэпутаты Совета Нацыянальнасцей ад данай аўтаномнай рэспублікі або аўтаномнай вобласці або нацыянальнай акругі.

Што-ж прадстаўляюць сабою гэтыя бюлетэні?

Гэта—аркуш паперы (белы, блакітны, светлазялёны), азагалоўлены: «Выбарчы бюлетэнь па выбарах у Вярхоўны Совет СССР». Пад загалоўкам стаіць дата: 12 снежня 1937 года. Аркуш мае дзве графы: у адной надрукаваны прозвішчы, імёны і імёны па бацьку кандыдатаў у дэпутаты (іх можа быць адзін або некалькі), у другой—указанні на пастановы агульных сходаў прадпрыемстваў, калгасаў, соўгасаў або таварыстваў працоўных, якія выставілі даную кандыдатуру. У канцы бюлетэня маецца подпіс: старшыні акруговай выбарчай камісіі па выбарах у Совет Саюза—на бюлетэнях белага колеру; старшыні акруговай выбарчай камісіі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей—на бюлетэнях блакітнага (або светлазялёнага) колеру.

Такім чынам, выбаршчыку ў бюлетэні НІЧОГА ПІСАЦЬ НЕ ТРЭБА. Яму патрэбна толькі пакінуць у бюлетэні прозвішча таго кандыдата, за каго ён падае свой голас, астатнія прозвішчы (калі кандыдатаў два, тры і больш) закрэсліць. У кожным бюлетэні павінна застацца незакрэсленым толькі адно прозвішча, бо выбарчы закон дапускае абранне толькі аднаго дэпутата па кожнай выбарчай акрузе. Калі выбаршчык пакіне ў бюлетэні незакрэсленым не адно, а два або тры прозвішчы, то нельга будзе вызначыць, за каго-ж ён падаў свой голас, і такі бюлетэнь будзе прызнан несапраўдным.

ЦІ МОЖА ВЫБАРШЧЫК УПІСВАЦЬ У БЮЛЕТЭНЬ НОВЫЯ ПРОЗВІШЧЫ? НЕ, НЕ МОЖА. Па выбарчаму закону ў кожнай выбарчай акрузе могуць балатыравацца толькі тыя кандыдаты, якія свое-

часова зарэгістраваны акруговай выбарчай камісіяй і ўнесены ёю ў бюлетэнь. Акруговая выбарчая камісія рэгіструе кандыдатаў, вылучаных на агульных сходах грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, рабочых і служачых па прадпрыемствах, чырвонаармейцаў—па воінскіх часцях, сялян—па калгасах, рабочых і служачых соўгасаў—па соўгасах. Акрамя таго, патрабуецца згода вылучанага кандыдата балатыравацца ў данай выбарчай акрузе Такім чынам, прозвішча новай асобы, калі яно будзе ўпісана ў выбарчы бюлетэнь, не будзе адпавядаць гэтым патрабаванням закона і, значыць, не падлягае балатыроўцы ў данай выбарчай акрузе. Такі бюлетэнь будзе прызнан несапраўдным.

Узоры выбарчых бюлетэняў зацверджаны Цэнтральнай выбарчай камісіяй па выбарах у Вярхоўны Совет СССР. Выбаршчык павінен карыстацца толькі бюлетэнямі і канвертам устаноўленага ўзору. Гэта ўстаноўлена для таго, каб забяспечыць тайну галасавання. Апускаць бюлетэні ў выбарчую скрынку без канверта таксама нельга. Бюлетэнь без канверта—гэта адкрыты бюлетэнь, а па нашай Канстытуцыі галасаванне павінна быць тайным, г. зн. закрытым.

Кожны выбаршчык застаецца ў ізаляваным памяшканні для запаўнення выбарчых бюлетэняў,—гэта самы адказны момант галасавання. Выбаршчык павінен быць вельмі ўважлівы, каб не дапусціць указаных тут памылак, якія могуць прывесці да прызнання бюлетэня несапраўдным. Толькі пераканаўшыся ў тым, што бюлетэні ў парадку, выбаршчык укладвае іх у канверт, запячатвае яго і зварачаецца ў пакой, дзе стаяць выбарчыя скрынкі, і ў прысутнасці членаў выбарчай камісіі апускае канверт у скрынку. Выбаршчык зрабіў сваю справу, ён выканаў свой вышэйшы грамадзянскі доўг.

Вось што павінен ведаць кожны выбаршчык аб выбарчым бюлетэні. Выбарчы бюлетэнь у руках выбаршчыка—вялікая сіла. Гэта дакумент, у якім адлюструецца воля выбаршчыка мець у складзе Вярхоўнага Совета СССР лепшых людзей краіны, лепшых сыноў і дочак радзімы, да канца адданых справе рабочага класа, справе партыі Леніна—Сталіна, будаўніцтву соцыялізма.

(„Правда“)

---

Уп. Галоўлітбела № 3491.
Тыраж 6.250 экз.
264.400 друк. зн. (4½арк.)
Здана ў набор 25/XI—37 г.
Падпісана да друку 8/XII—37 г.

*Рэдкалегія*

Менск, друк. імя Сталіна Зак. № 1719.

ЦАНА 40 кап.